незалежная газета

№ 31 (724) 17 жніўня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Колькі каштуе тэніска Лукашэнкі**

Старонка 2

**Дык падпісвайся!**

Старонка 2.

**Расонскі ідал: сенсацыя або містыфікацыя?**

Старонка 11



# Папярод Бацькі

Масква паабяцала зніжэнне цэнаў на газ Мяснiковiчу. **Старонка 3.**



Тэндэнцыі

## Улада маўчыць — даляр расце

За тыдзень чорны курс вырас яшчэ на 500 рублёў і дасягнуў 7500.

Бяздзеянне Нацбанка і ўрада прыводзіць да далейшага падзення рубля. Яшчэ тыдзень таму чорны рынак апеляваў лічбамі 6700—7000 рублёў за даляр, а цяпер курс на чорным рынку падняўся ўжо да 7500! Яшчэ трошкі, і афіцыйны і чорны курсы будуць адрозніваццa на тыя самыя 54% — памер першай дэвальвацыі.

Лічбы на сайце-абменніку Пракаповi.ч фармуюцца праз адвольныя аб'явы. Ахвотныя «накруціць» курс даюць аб'явы аб продажы даляра па 10 тысяч рублёў, у выніку сярэдняе арыфметычнае расце. Разам з тым, у процівагу ім дзейнічаюць тыя, хто штучна зніжае курс. У любым выпадку, іншага індыкатара беларускай эканомікі пакуль няма.

У Літве курс продажу доляраў за беларускія рублі ўжо дасягае 8000, а еўра — 11 700 рублёў. Разам з тым, за здадзеную валюту можна атрымаць 7000 і 9800 рублёў адпаведна.

Паралельна з наяўным расце і безнаяўны курс. Ён перайшоў мяжу 8000 рублёў.

**Ягор Марціновіч**



## На волі

Першыя палітвязні выйшлі на свабоду. Арцём Грыбкоў: А ўсё ж міліцыя — з народам. **Старонкі 3, 7.**

**На фота: сябры сустракаюць Змітра Дразда.**

# 1991

## 20 гадоў назад Беларусь стала незалежнай

**25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет надаў статус канстытуцыйнага акта Дэкларацыі аб суверэнітэце краіны. У тыя самыя дні рэальнае кіраўніцтва перайшло ад ЦК Кампартыі да органаў выканаўчай і заканадаўчай улады. Пасля стагоддзяў каланіяльнай залежнасці Беларусь пачала ператварэнне ў паўнапраўны суб'ект міжнароднага права. Яна стала ўласніцай усёй маёмасці, якая знаходзілася на яе тэрыторыі.**

**«Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг сталі дзяржаўнымі. Беларусы пачалі па-іншаму цаніць уласную гісторыю і сваё нацыянальнае «я».**

**Гэта была рэвалюцыйная перамена ў жыцці нацыі.**

# Колькі каштуе тэніска Лукашэнкі?

**Ён носіць вопратку ад Corneliani — як Мэл Гібсан і Джордж Клуні.**

Вядомы беларускі блогер Віктар Малішэўскі суаднёс фірмовы лэйбл на майцы Аляксандра Лукашэнкі з лагатыпам вядомай фірмы Corneliani. Аказалася, што падчас паездак па краіне ён носіць тэніску менавіта гэтай маркі. Як высветлілася, каштуе такое пола 766 тысяч рублёў. Вопратку ад Corneliani носяць Мэл Гібсан і Джордж Клуні.

За тым, як апранаецца Лукашэнка, беларуская інтэрнэт-супольнасць сочыць пільна і даўно. Той жа самы Малішэўскі ў жніўні 2008 года заўважыў на кіраўніку краіны рэмень французскага Дома моды Hermes, цана на які вагаецца да $600 да $1000. Што цікава, і рэмень, і тэніску Лукашэнка апрануў на поле ў час інспекцыі жніва.

А яшчэ праз год блогер рассакрэціў цану гадзінніка Лукашэнкі, «засвечанага» фатографамі ў часе ягонага афіцыйнага візіту ў Літву. Швейцарскі гадзіннік Patek Philippe Calatrava 5120j каштуе амаль 16 тысяч даляраў, або 11 тысяч еўра.

**Сямён Печанко**



# «Аграсэкс» на Кастрычніцкай стане рэгулярным?



Паводле неафіцыйнай інфармацыі, у аддзелах культуры прызначаюць «адказных за мерапрыемствы па серадах».

У Рэдакцыю «НН» патэлефанаваў чытач, які працуе ў адной з мінскіх установаў культуры. Па яго інфармацыі, кіраўніцтва ўстановы тыдзень таму атрымала загад ад аддзела культуры райвыканкама «прызначыць адказнага за мерапрыемствы па серадах». На гэтым тыдні ад выканкама як быццам прыйшло новае ўказанне: скласці спіс тых, хто будзе ўдзельнічаць у культурных мерапрыемствах.

Як мяркуе наш чытач, маюцца на ўвазе мерапрыемствы кшталту нечаканага канцэрта на Кастрычніцкай плошчы, які адбыўся 29 чэрвеня падчас «акцыі маўклівага супраціву». Што цікава, маўклівыя пратэсты пераносяцца на восень, а альтэрнатыўныя мерапрыемствы па серадах ужо пачаліся — на мінулым тыдні быў арганізаваны канцэрт самадзейнасці, на які «запрасілі» супрацоўнікаў культурных установаў.

«Гэта ўжо амаль класіка, — тлумачыць наш чытач. — Перад любой буйной апазіцыйнай акцыяй у нашага кіраўніцтва абавязкова знаходзіцца нейкае мерапрыемства, на якое трэба абавязкова адправіць людзей. На паперы такія рэчы звычайна не афармляюцца, таму даказаць наяўнасць самога факта становіцца немагчыма».

**Алесь Сабаленка**

## Жыхар Мазыра атрымаў штраф за запіс «Укантакце» пра акцыю пратэсту

Суд Мазырскага раёна 16 жніўня прызнаў Міхаіла Караткевіча вінаватым на падставе арт. 23.34 КоАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства) і пакараў штрафам у тры базавыя велічыні. Жыхара Мазыра асудзілі за запіс на старонцы ў сацыяльнай сетцы аб правядзенні акцыі маўклівага пратэсту.

Згодна з міліцэйскім пратаколам, Караткевіч «у інтэрнэт-сетцы на сайце «УКантакце» шляхам пераадрасацыі распаўсюдзіў заклік аб неабходнасці збірацца кожную сераду тыдня ў 19.00 на пл. імя Леніна г. Мазыра, тым самым ажыццявіў арганізацыю масавага мерапрыемства, парушаючы ўстаноўлены парадак правядзення масавых мерапрыемстваў».

Як паведаміў праваабаронца Уладзімір Целяпун, суд палічыў, што старонка ў сацыяльнай сетцы — гэта СМІ, запіс Міхаіла быў даступны многім карыстальнікам, таму прызнаў яго вінаватым у арганізацыі акцыі.

Міхаіл будзе абскарджваць рашэнне суда.

**БелаПАН**

## Дыпламаты згулялі з апазіцыяй у футбол

**Уладальнікам XV Кубка Свабоды стаў «Беларускі рух».**

14 жніўня на стадыёне БАТУ адбыўся традыцыйны футбольны турнір, у якім удзельнічаюць міні-футбольныя каманды палітычных партый і рухаў дэмакратычнага кірунку.

Сёлета ў турніры ўпершыню выступіла каманда дыпламатаў пад кіраўніцтвам часовага паверанага ў справах ЗША ў Беларусі Майкла Скэнлана. Гульцы каманды прадстаўлялі чатыры кантыненты: Паўднёвую і Паўночную Амерыку, Афрыку і Еўропу. На поле выйшлі і каманды Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, Хрысціянскай дэмакратыі, Руху «За Свабоду» і «Беларускага Руху». А вось двухразовыя ўладальнікі Кубка Свабоды Партыя левых «Справядлівы свет» адмовіліся бараніць свой тытул: у Дзень будаўніка футбалісты аддалі перавагу народным гулянням.

Каманда АГП на чале з Анатолем Лябедзькам усё ж саступіла ў фінале «Беларускаму Руху». Можа таму, што на поле не выйшаў заўзяты футбаліст Яраслаў Раманчук, якому, пэўна, было няёмка глядзець у вочы актывістам.

У гульні за бронзу каманда журналістаў саступіла хрысціянскім дэмакратам.

**Іна Мудрачэнка**

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Р.Р. з Калінкавіцкага раёна.
Эдуарду С. з Воранаўскага раёна.
Івану С. з Дзятлаўскага раёна.
Ірыне Ц., Аляксею Г., Віктару К., Галіне Ч. з Рэчыцкага раёна.
Мікалаю С. з Вілейскага раёна.
А.Л., Міхаілу Б. Аркадзю М., Алегу М., Алене Б., Т.Т., Таццяне С., Валянціне С., Ніне Л., Валерыю Д., Любові К., Фёдару Ш., Аляксандру Л., Мікалаю Х., Сяргею І. з Гомеля.
І.Ш., Вользе Г., Ганне К., Святлане Ш. з Віцебска.
Вользе Ж., Уладзіміру Д., Іне С., Уладзіміру Я. з Барысаўскага раёна.
Віктару Д. з Капыльскага раёна.
Міхаілу Ш. з Клімавіцкага раёна.
Т.К., Антону Т., Ірыне З., Іне Я. са Смалявіцкага раёна.
Адзе Р. з Шаркаўшчынскага раёна.
Анатолю П., Валерыю Х. з Салігорскага раёна.
Уладзіміру Ш., В.І., Ліліі Ж. з Віцебскага раёна.
Раману М. з Чашніцкага раёна.
Вацлаву Ш. з Глыбоцкага раёна.
І.А., В.К. з Іўеўскага раёна.
Уладзіміру Б., Аляксею Ш., Алесю Б., Сяргею В., Валерыю П. з Баранавіцкага раёна.
Васілію Л. з Крупскага раёна.
Паўлу С. з Горацкага раёна.



### Сціcла

- **Гарэлка даражэе на 5%.** Рознічная цана складзе каля 11 000 рублёў за бутэльку. І гэта не апошняе падаражанне (старонка 4).
- **Бензін падаражэе яшчэ на 3%.** Пра гэта агенцтву ПРАЙМ-ТАСС паведамілі ў профільным ведамстве. Апошні раз цэны падвышаліся з 21 ліпеня — таксама на 3%. «Рашэнне аб павышэнні цэнаў на аўтамабільнае паліва на ўнутраным рынку можа быць прынята ў жніўні», — сказаў суразмоўца.
- **Брытанцам хочуць прадаць «Вітаўт».** Для прадстаўнікоў транспартных кампаній Вялікабрытаніі арганізавалі тэст-драйв адной з самых сучасных мадэляў прадпрыемства — 420-га тралейбуса, вядомага як «Вітаўт». Магчыма, беларусам удасца прадаць 28 тралейбусаў у горад Лідс.
- **Адкрыццё ў Віцебску прытулку для бяздомных жывёл праспансіраваў мясцовы мясакабінат.** Агульны кошт праектных і будаўніча-мантажных работ склаў 2,9 мільярда рублёў. Прытулак разлічаны на аднaчасовае ўтрыманне 200 жывёл. Для іх тут створаны прасторныя вальеры, ёсць памяшканні для каранціну, ізалятар для хворых, неабходнае ветэрынарнае абсталяванне, нават свая аперацыйная. У штаце супрацоўнікаў будзе дырэктар, ветэрынар, рабочы і кухар. Усіх гадаванцаў пасля агляду і неабходнага лячэння (а таксама абавязковых прышчэпак) аддаюць у добрыя рукі.
- **У Лідскім раёне асвяцілі новы касцёл.** Каталіцкі прыход у Беліцы існуе з сярэдзіны XVI стагоддзя. Стары храм разбурылі саветы. Новы будавалі 14 гадоў. Зараз ксёндз збірае арганізаваць тут яшчэ і музей сям'і. Дарэчы, восенню новы касцёл асвяцяць і ў Гродне.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by ад 10 да 16 жніўня

1. Апакаліптычны шторм у Цэнтральнай Беларусі
2. Колькі каштуе тэніска Лукашэнкі
3. «Смак беларускай мовы» на вуліцах Мінска
4. Вызваленыя палітвязні прыбываюць у Мінск
5. Лукашэнка памілаваў дзевяць палітвязняў
6. «Вы ўсё разумееце самі». Выпускніца журфака раскрывае сакрэты кухні дзяржаўных СМІ
7. Палітвязень Грыбкоў: А міліцыя ўсё ж — з народам
8. Напамін Тозіку. Як будуюць па кітайскіх нарматывах? — фота + відэа
9. «Раўнаважкі» курс на Prokopovi.ch дасягнуў 7500 рублёў
10. «Аграсэкс» на Кастрычніцкай стане рэгулярным?

# Папярод Бацькі

Масква паабяцала зніжэнне цэнаў на газ Мясніковічу. Але ў абмен на «Белтрансгаз».

Візіт прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча ў Маскву прынёс пэўныя вынікі. Яго расійскі калега Уладзімір Пуцін заявіў, што налета цана на газ для Беларусі будзе зніжаная.

«У Расіі прынята рашэнне з наступнага года ўвесці ў газавую формулу для Беларусі інтэграцыйны паніжальны каэфіцыент», — цытуюць Пуціна расійскія агенцтвы. Цяпер за тысячу кубаметраў расійскага газу Беларусь плаціць 250 даляраў, на зніжэнні можна будзе ашчадзіць да 30%.

## Працэс будзе сінхранізаваны

Пры гэтым ён нагадвае, што перамоўны працэс аб цане «будзе сінхранізаваны з набыццём другой долі «Газпромам» у «Белтрансгазе». Сёння расіянам належыць толькі палова прадпрыемства.

Тым не менш, самі перамовы яшчэ нават не пачыналіся. Яны запланаваныя на верасень. «Думаю, што мы да канца года абавязкова падпішам кантракт, і ні ў якім выпадку не будзе паўтору той сітуацыі, якая была пяць гадоў таму, калі мы падпісалі кантракт у 23 гадзіны 58 хвілін 31 снежня 2006 года», — сказаў прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.

## Бясплатны газ бывае?

Цяжка верыцца, што Масква так лёгка пайшла Беларусі на саступкі. «Газпромаўская» газета «Коммерсант» адзначае, што перамовы пройдуць па беларускім сцэнары. Гэта будзе выкарастана для ўздзеяння на Украіну, якая, у адрозненне ад Беларусі, не хоча аддаваць сваю газатранспартную сістэму суседняй дзяржаве.

Хто ведае, ці беларускі бок не паабяцаў Расіі не толькі «Белтрансгаз», але і іншыя ласыя прадпрыемствы. Напрыклад, «Беларуськалій».

Выглядае на тое, што Лукашэнка вымушана ідзе на чарговае збліжэнне з Расіяй. Еўрасаюз і Амерыка не хочуць мець справаў з дыктатарам. Яснасці з крэдытам ад МВФ таксама не назіраецца. Азербайджан, Венесуэла і іншыя хаўруснікі Мінска не ў стане фінансаваць беларускую эканоміку.

Звярнуў увагу і той факт, што заява па газе была зробленая не на сустрэчы з Лукашэнкам, а з беларускім прэм'ерам. «Масква абласкала Мясніковіча», — піша інтэрнэт-газета «Салідарнасць». У адносінах Лукашэнкі з расійскімі лідарамі відавочнага прагрэсу не назіраецца. Ад 19 снежня так і не адбылося ніводнай ягонай двухбаковай сустрэчы з Дзмітрыем Мядзведзевым. Пры размовах з Пуціным таксама адчувалася дыстанцыя. У Маскву ж на перамовы стабільна лётае Мясніковіч.

## З Астаны ў Доху

Але і без Масквы графік палётаў Аляксандра Лукашэнкі на гэтым тыдні быў досыць шчыльны. Спачатку ён узяў удзел у нефармальным саміце кіраўнікоў краін АДКБ, што праходзіў у казахскай Астане.

Для Лукашэнкі такія саміты ўвогуле тэма балючая. Летась адзін з іх ён прапусціў праз



Лукашэнка ў Астане.

малочную вайну з Расіяй, а на другім у Ерэване яго дэманстратыўна ігнаравалі іншыя прэзідэнты. Гэта адбывалася ў самы разгар беларуска-расійскага супрацьстаяння, калі на тэлеканале НТВ круцілі «Хроснага бацьку».

На гэтыя раз расійскія СМІ іранізавалі: «Арабскія рэвалюцыі прымусілі беларускага лідара зблізіцца з калегамі па АДКБ».

Беларусь цяпер старшынюе ў АДКБ, таму менавіта Лукашэнка паведамляў журналістам, што галоўнай тэмай для абмеркавання былі рэвалюцыі ў Егіпце, Тунісе, Лівіі. «Мы дамовіліся, што будзем сумеснымі намаганнямі выпрацоўваць супрацьдзеянне пагрозам, найперш у кіберпрасторы».

З вуснаў Лукашэнкі таксама прагучала, што ўдзельнікі арганізацыі «збіраюцца скончыць працэс камплектавання Узброеных сіл», каб прадухіляць арабскія сцэнары.

## Антырэвалюцыйная армія

Што гэта значыць для Беларусі? Ці ёсць пагроза, што войскі АДКБ могуць уваходзіць на тэрыторыю дзяржаў-удзельніц у выпадку рэвалюцыйнай сітуацыі?

Палітолаг Дзяніс Мельянцоў кажа, што дамову аб калектыўных сілах аператыўнага рэагавання яшчэ нават не падпісаў Узбекістан. «Рана казаць пра нейкую антырэвалюцыйную армію. Наўрад ці Беларусь і краіны Цэнтральнай Азіі дазволяць умешвацца ў свае ўнутраныя справы», — кажа Мельянцоў.

Звяртае на сябе ўвагу, што пасля антырэвалюцыйных заяваў у Астане Лукашэнка накіраваўся ў Катар, краіну-спонсара лівійскай рэвалюцыі. Катар таксама падтрымлівае вызвольныя рухі ў Сірыі і Емене..

У Беларусі з Катарам усталяваліся добрыя сувязі. У Мінск прыязджаў шэйх Катара — адзін з найбагацейшых манархаў свету. Тады Лукашэнка запрасіў катарскі бізнес да супрацоўніцтва ў розных сферах, у тым ліку і інвестыцыйнай.

Катар з'яўляецца найбуйнейшым экспарцёрам прыроднага газу ў свеце.

**Зміцер Панкавец**

# Караць нельга, памілаваць

Можна і без раскаяння.

11 жніўня ў агенцтве БелТА з'явілася паведамленне, што Аляксандр Лукашэнка «вызваліў ад адбыцця пакарання 9 актыўных удзельнікаў масавых беспарадкаў на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 года. Рашэнне аб памілаванні прынята на падставе просьбаў асобаў, з улікам таго, што яны асэнсавалі проціпраўны характар сваіх дзеянняў, прызналі віну і шчыра раскаяліся», — гаварылася ў паведамленні.

Як пасля аказалася, вызваленыя і не раскайваліся, і віны не прызналі. Тым не менш, іх адпусцілі.

Пра магчымае вызваленне палітвязняў Лукашэнка ўжо гаварыў двойчы. Прычым ён адзначыў, што палітвязняў толькі трое: «Саннікаў, Ус і гэты, як яго, Статкевіч». Умовай вызвалення ён называў паручальніцтва з боку міністра замежных справаў ці Беларускай асацыяцыі журналістаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сяргей Казакоў выйшаў з Бабруйскай турмы. На фота: яго абдымае жонка Змітра Бандарэнкі Вольга.

Два дні ніхто не ведаў прозвішчаў хлопцаў, што трапілі пад дзеянне гэтага ўказа.

Найперш пайшла інфармацыя, што на волі апынуцца вязні бабруйскай калоніі Зміцер Дрозд, Арцём Грыбкоў, Сяргей Казакоў і Андрэй Пратасеня. Спраўдзілася на тры чвэрці. Толькі Пратасеня застаўся за кратамі, бо адмовіўся падпісаць прашэнне аб памілаванні.

З іншых калоній на волю выйшлі Аляксандр Квяткевіч, Уладзімір Яроменак, Віталь Мацукевіч, Васіль Парфянкоў, Яўген Сакрэт. У большасці сваёй — гэта хлопцы, якія не былі ў палітычных партыях і арганізацыях.

Дзявятым вызваленым стаўся Уладзімір Хамічэнка. Той самы, якога многія паспелі палічыць за правакатара і які атрымаў мянушку «навушнік». Ён выйшаў на свабоду і недзе знік. Цётка і сястра яго пакуль не бачылі.

Паводле сведчанняў арыштаваных, прашэнні аб памілаванні ім прапаноўвалі падпісаць супрацоўнікі КДБ. Прычым, трэба ім быў проста подпіс, а не раскаянне.

У беларускім заканадаўстве існуе інстытут памілавання, для яго прымянення вязень мусіць звярнуцца да Лукашэнкі з прызнаннем сваёй віны і раскаяннем. Тым не менш, і раней палітвязні выходзілі на волю без усялякіх прашэнняў, як было з Аляксандрам Казуліным ці Андрэем Кімам.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Святлана Вінаградава выйшла замуж за палітвязня Паўла Вінаградава проста ў калоніі ў Івацэвічах. Яна прыйшла на вакзал сустрэць памілаваных. Яе муж застаецца сядзець.**

За кратамі працягвае знаходзіцца больш за 30 палітычных вязняў. Падобныя вызваленні раней заўсёды былі своеасаблівымі сігналамі да Захаду, што ў Мінску гатовыя размаўляць. Аднак на гэты раз не аднойчы падмануты Захад праявіў цвёрдасць: спачатку вызваленне ўсіх палітвязняў, і толькі пасля размовы.

**ЗП**

# Бяляцкаму выставілі абвінавачванне

12 жніўня праваабаронцу Алесю Бяляцкаму выстаўлена афіцыйнае абвінавачванне па артыкуле 243 ч.2 «Утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры». Кіраўнік «Вясны» застанецца за кратамі як мінімум яшчэ два месяцы.

Высветлілася, што звесткі пра рахункі Бяляцкага, на якія паступалі грошы для дапамогі рэпрэсаваным, выдалі не толькі Літва, але і Польшча з Чэхіяй. Магчыма, пад удар могуць трапяць і іншыя праваабаронцы.

«Пакуль я ўсё ўспрымаю як штосьці нерэальнае, паглядзім, якія адчуванні з'явяцца пазней», — напісаў Алесь у лісце з турмы да жонкі.

Тым часам у падтрымку Алеся Бяляцкага сабрана ўжо больш за 460 паручальніцтваў. Сярод падпісантаў нобелеўская лаўрэатка Шырын Эбадзі.

**ЗП**

PHOTO.BYMEDIA.NET



# Stratfor: Германія і Расія гатовыя падзяліць ласыя кавалкі беларускай эканомікі

Прыватная амерыканская разведвальна-аналітычная кампанія Stratfor звярнула ўвагу на апошні расійска-нямецкі крэдыт Беларусі.

Найбуйнейшы банк Расіі, «Сбербанк», атрымаў 35% акцый «Беларуськалія» ў якасці заставы пад крэдыт у 2 мільярды даляраў. Іншым удзельнікам гэтай угоды стаў Deutsche Bank. Як заявіла Stratfor адна з крыніц, у дадзены момант Берлін вядзе перамовы з Расіяй (не з Беларуссю!) пра тое, якія прадпрыемствы Германія можа набыць падчас прыватызацыі.

Германія на дадзены момант — адзін з найбуйнейшых удзельнікаў прыватызацыі ў Расіі. Краіна таксама наладзіла цесныя кантакты з расійскай палітычнай элітай, пішуць на сайце Stratfor. Таму Расія не будзе пярэчыць супраць удзелу Германіі ў прыватызацыі прадпрыемстваў у Беларусі.

**Сяргей Гезгала**



## Уклады: страта грошай

Уявім сабе, што вы паклалі беларускія рублі ў банк у лютым.




## Мяса даражэе да ўзроўню Расіі. Наступнае — малако

З 11 жніўня цэны выраслі больш чым на 10%.

Мясныя ажыятажы ў апошнія дні апанавалі ўсю краіну. У Мінску і абласных цэнтрах людзі выстройваліся ў шматгадзінныя чэргі, каб паспець купіць мяса па старых цэнах. Прычым хапалі ўсё, што ляжала — хоць курыцу, хоць свініну. Пустыя прылаўкі крамаў пратрымаліся ўсяго некалькі дзён, пасля чаго сітуацыя выправілася. Тавар з'явіўся, але па новых цэнах.

З 11 жніўня на 5% выраслі адпускныя цэны на сацыяльна значныя тавары і яшчэ на 5% паднялі цэны мясакамбінаты. Але гэта яшчэ не ўсё. У найбліжэйшы час чыноўнікі хочуць канчаткова зраўняць беларускія цэны з расійскімі. «Рэзкага падаражання не будзе, паступова будзем падымаць на 3–5% штомесяц», — абяцае старшыня Дзяржкантролю Аляксандр Якабсон. Рэч у тым, што мясакамбінаты і фермеры з задавальненнем прадаюць тавар у Расію. Экспарт расце, валюта паступае, але ў самой Беларусі пакупнікі сутыкаюцца з дэфіцытам. Наколькі будзе расці цана? Імаверна, яшчэ на 25—30%.

Наступнымі схапіцца за галаву прыйдзецца аматарам малочнага. Розніца закупных цэн на малочную прадукцыю — больш чым 150%.

**Ягор Марціновіч**

## З пачатку года спынілася кожная шостая мінская маршрутка

Перавозка пасажыраў стала нерэнтабельнай.

Рэзкае падаражанне аўтамабільнага паліва і запчастак, разам са зніжэннем пакупніцкай здольнасці беларусаў, ударыла па ўладальніках маршрутных таксі. Яшчэ на пачатку гэтага года да паслугаў сталічных пасажыраў было 895 мікрааўтобусаў, цяпер — усяго 770.

Паводле словаў начальніка аддзела конкурсаў і дагавораў ДУ «Сталічны транспарт і сувязь» Валера Сасіноўскага, у конкурсах на права выканання аўтамабільных перавозак пасажыраў удзельнічае ўсё менш прэтэндэнтаў. «На большасці камерцыйных маршрутаў праца стала нерэнтабельнай», — кажа ён.

Кошт праезду зараз складае 2700 рублёў, прытым што з пачатку крызісу ён павялічыўся толькі на 500 рублёў. Маршрутачнікі просяць дазволіць ім устанаўліваць адвольныя цэны ці хаця б давесці кошт праезду да 3500 рублёў, але міністэрства транспарту настойвае — рэгуляванне пакуль што застанецца.

**ЯМ**

# Будзем менш піць і больш закусваць

Да Новага года акцыз на гарэлку можа падняцца на 76%, а на піва — на 460%.

Урад плануе істотна падняць стаўкі акцызаў на алкагольную прадукцыю. Першае павышэнне акцызаў запланавана на пачатак верасня, другое — на пачатак лістапада.

У выпадку рэалізацыі падрыхтаванага плана кошт гарэлкі, каньяку, піва, лікёру ўвосень істотна ўзрасце.

Наколькі зменяцца цэны? Па ацэнках трох апытаных гарэлачных кампаній, у кошце гарэлкі (з улікам ПДВ) доля акцызу займае каля 50%. Увосень акцыз на гарэлку хочуць падняць на 76%, значыцца, гарэлка можа падаражэць як мінімум на 38%. Апроч таго, Міністэрства эканомікі плануе ў найбліжэйшы час адмяніць дзяржаўнае рэгуляванне цэн і дазволіць крамам усталёўваць на гарэлку гандлёвую надбаўку. Гэта можа падняць цану яшчэ на 10%.

Прыйдзецца ўвосень раскашэліцца аматарам не толькі «беленькай», але і спажыўцам каньякоў, лікёраў і слабаалкагольнай прадукцыі — піва.

Эканамісты лікёра-гарэлачных прадпрыемстваў чакаюць, што ўніфікацыя ставак акцызаў прывядзе да таго, што кошт слабаалкагольных лікёраў прыкметна вырасце і спажыўцы стануць аддаваць перавагу мацнейшым напоям.

| Від алкагольнай прадукцыі | Стаўка акцызу (у рублях) | | |
|---|---|---|---|
| | Існуючая стаўка | Стаўка акцызу з 01.09.11 | Стаўка акцызу з 01.11.11 |
| Алкагольная прадукцыя з доляй этылавага спірту больш за 28% | 22 160 | 30 000 | 39 000 |
| Каньяк, брэндзі, кальвадос | 18 680 | | |
| Алкагольная прадукцыя з доляй этылавага спірту ад 7% да 28% | 16 760 | | |
| Піва з доляй спірту ад 0,5% да 7% | 350 | 1 000 | 1600 |

**Праект павялічэння акцызаў на алкагольную прадукцыя. Інфармацыя Naviny.by.**



Асобная песня — пра акцыз на піва. Акцызны падатак на ячменны напой дзяржава хоча падняць вельмі істотна — у 4,6 разу — з 350 да 1600 рублёў за літр гатовай прадукцыі.

Галоўнае пытанне заключаецца ў тым, як усё гэта адаб'ецца на паводзінах спажыўцоў. Давядзецца альбо менш піць, альбо горш закусваць.

**ЯМ, паводле Naviny.by**

## Афіцыйная статыстыка: валютныя дэпазіты пачалі расці

У Беларусі ў ліпені зафіксаваны хоць і невялікі (на 1,6%), але прыток дэпазітаў насельніцтва ў валюце пасля змяншэння на працягу чатырох папярэдніх месяцаў. У ліпені валютныя дэпазіты выраслі на $56 мільёнаў пасля зніжэння на $1,2 мільярда за сакавік—чэрвень 2011 года. Палова ліпеньскага росту дасягнута дзякуючы няznачнаму росту афіцыйнага курса даляра — рэч у тым, што нацбанкаўскія лічбы прыводзяцца ў рублях незалежна ад валюты ўкладу.

На 1 жніўня аб'ём валютных дэпазітаў фізасоб склаў $3,54 мільярда, што на 19,2% менш, чым на пачатак года.

**ЯМ**

### Сцісла

• **Станок не выключаецца.** На 1 жніўня аб'ём наяўных рублёў у звароце склаў 7,059 трыльёна. У параўнанні з ліпенем ён павялічыўся яшчэ на 11,4%. Такім чынам, з пачатку года аб'ём наяўных грошай вырас на 57,1%. Рублёвая грашовая маса, якая ўключае ў сябе наяўныя грошы, рублёвыя дэпазіты, а таксама сродкі ў рублёвых каштоўных паперах, за студзень—ліпень вырасла на 29,8%.

• **З 17 жніўня стаўка рэфінансавання паднялася да 22%.** Сёлета яна ўзрастае ўжо сёмы раз, але ўсё адно адстае ад узроўню інфляцыі. Рост стаўкі рэфінансавання ўздыме стаўкі крэдытаў і дэпазітаў.

• **Індыя гатова заплаціць $6—7 мільярдаў за 25% акцый «Беларуськалія».** Такім чынам Індыя імкнецца забяспечыць стабільныя пастаўкі ўгнаенняў для задавальнення попыту. У чэрвені Аляксандр Лукашэнка ацэньваў кошт 100% акцый «Беларуськалія» ў гіганцкія $30 мільярдаў.

• **Квадратны метр мінскага жылля для «чаргі» — $460.** Такі ўзровень дасягнуты за кошт дэвальвацыі. Фактычна, вярнуліся даляравыя цэны 2008 года. Кошт будаўніцтва жылля з дзяржаўнай падтрымкай стрымліваецца за кошт прыбытку забудоўшчыкаў.

• **Міжгароднія аўтобусы падаражэлі яшчэ раз, цяпер на 5—15%.** Папярэдняе павышэнне тарыфаў на 15—20% Мінсктранс ажыццявіў 9 чэрвеня.

**ЯМ**

# Зміцер Дрозд: Прапанавалі згуляць у «латарэю»

Архівіст Зміцер Дрозд быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі за ўдзел у паслявыбарчай дэманстрацыі 19 снежня. У мінулую суботу Зміцер быў сярод першых вызваленых за тыя падзеі.

**«Наша Ніва»: Зміцер, як адчуванні ў першыя дні на волі?**

**Зміцер Дрозд:** Я не так шмат адсядзеў, каб паспеў забыцца на нармальнае жыццё. Хіба што дзіўна крыху было, мяне ж затрымалі ў лютым, а выйшаў у жніўні, нібыта гэты час некуды знік. Нейкай радасці асаблівай няма. Два дні збіраліся выходзіць, то чакалі, што адпусцяць, то не.

**«НН»: З хлопцамі (Казакоў, Грыбкоў, Пратасеня) у турме ўдавалася бачыцца?**

**ЗД:** З Казаковым мы разам былі ў каранціне месяц, пакуль нашы скаргі не былі разгледжаныя. Аднойчы сутыкаўся з Пратасенем. Выходзіць, што ў самой калоніі я быў толькі месяц, Казакоў — два, а Грыбкоў увогуле пару дзён.

**«НН»: Калі меркаваць па здымках, то турма давалася Вам цяжка. Як здароўе?**

**ЗД:** Нармальна. Здаецца, новых хваробаў не прыбавілася.

**«НН»: Вас затрымалі толькі ў лютым. Да гэтага часу не было думак з'ехаць з краіны, раней жа Вы жылі ў Маскве?**

**ЗД:** Так, 1 лютага прыйшлі людзі ў чорных куртках, якія сказалі, што мяне выклікаюць на допыт. Я нават рэчы не стаў збіраць. Да гэтага добра бачыў сябе ў фільмах кшталту «Жалезам па шкле», было разуменне, што могуць арыштаваць. Аднак, каб бегчы, то не, не было такога. Гэта больш складанае рашэнне. У Маскве не схаваешся. Раней у мяне там было каханне, цяпер нічога не засталося. Які сэнс быў ехаць?

**Зміцер Дрозд**

нар. 26 сакавіка 1973. У 1992 скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці «Фотатэхніка», у 2005 — гістарычны факультэт БДУ (спецыяльнасць — «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны»). У 2010 выйшла яго вялікая праца — кніга «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861—1900». Працаваў над другой кнігай, прысвечанай гісторыі фатаграфіі і лёсам фатографаў XX ст. У часе выбарчай кампаніі 2010 быў сябрам ініцыятыўнай групы Андрэя Саннікава. За ўдзел у Плошчы адбыў 10-сутачны арышт. Пазней быў асуджаны на 3 гады зняволення.



Сяргей Гудзілін

**«НН»: Калі прапанавалі напісаць на імя Лукашэнкі?**

**ЗД:** У суботу 30 ліпеня. Я працаваў у прамысловай зоне, калі мяне паклікалі да начальніка калоніі. У яго былі пытанні, ці добрыя ў мяне ўмовы, ці не скарджуся. Праз паўгадзіны быў яшчэ адзін выклік. У кабінеце быў нейкі гэбіст з Магілёва і маёр з нашай калоніі. Пыталіся пра мае перакананні, казалі, што ў нашай краіне цудоўна жыць. Агулам размаўлялі гадзіны дзве. Я думаў, што гэта ўсё адбываецца ў рамках нейкага выхаваўчага працэсу. Потым пытанні пачаліся нібыта здалёк: як пачувае сябе мама, што дома. Было відаць, што яны ведаюць змест маіх лістоў. Сапраўды, гэта быў не самы лёгкі перыяд у нашай сям'і. У выніку мне прапанавалі дапамагчы, каб я паспрабаваў «выцягнуць латарэйны білет». Мне далі гатовы ліст на імя Лукашэнкі аб памілаванні, дзе адзначалася, што сваю віну цалкам прызнаю і раскайваюся. Я здзівіўся, як прызнаю, калі толькі што я ім казаў процілеглае, што мае погляды зусім не змяніліся. Ім гэта было няважна, галоўным было паставіць подпіс. Прыйшлі да кампраміснага варыянта, што я напісаў толькі аб раскаянні, але не прызнанні віны. Грыбкоў увогуле напісаў адзін радок: «Прашу мяне памілаваць». З Казаковым як маладым, відаць, гутарылі больш строга. У чацвер прайшла камісія, дзе было сказана, што ўсе мы сталі на шлях выпраўлення і можам быць адпушчаныя.

Андрэй Пратасеня пісаць просьбу аб памілаванні адмовіўся.

**«НН»: А што з Андрэем Пратасенем?**

**ЗД:** Даведаліся, што пісаць прашэнне аб памілаванні ён адмовіўся. Для гэтага трэба быць героем. У калоніі з табой можа здарыцца што заўгодна. Наколькі я магу меркаваць, то ўмовы пасля гэтага ў яго значна пагоршалі. Ён паступіў смела, але трэба разлічваць на свае сілы. Дні праз чатыры Пратасеня ўсё ж падпісаў паперы, але, як кажуць, цягнік ужо сышоў.

**«НН»: Ведаючы вынікі, сёння б пайшлі на Плошчу?**

**ЗД:** Пайшоў бы, канечне.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



**Алесь Міхалевіч у Вільні сустрэўся з жонкай і дачкой. «Цяжкасці ўмацавалі нас», — кажа экс-кандыдат у прэзідэнты, палітуцякач.**

## Суд пацвердзіў: Чалавек без рукі вінаваты

Скаргу Канстанціна Капліна, асуджанага за ўдзел у акцыі маўклівага пратэсту 3 ліпеня, Гродзенскі абласны суд пакінуў без задавальнення.

Інвалід Каплін, які не мае правай рукі, быў затрыманы ў той дзень на Савецкай плошчы Гродна за тое, што ён «пляскаў у ладкі». Так было запісана ў міліцэйскім пратаколе.

6 ліпеня гарадскі суд Гродна прызнаў яго вінаватым ва ўдзеле ў незаконным шэсці і пакараў штрафам у памеры 1 050 000 рублёў. Гэта рашэнне Каплін абскардзіў у абласным судзе.

На працэсе суддзя Анатоль Заяц скаргу інваліда не задаволіў. «Людзі павінны разумець усю дурасць такіх вось рашэнняў», — сказаў Каплін.

**Naviny.by**

## Арцём Грыбкоў: А міліцыя ўсё ж з народам

Вызвалены з турмы Арцём Грыбкоў расказвае пра зняволенне, кандыдатаў у прэзідэнты і прашэнне аб памілаванні.

«Да апошняга часу не верылася, што будзе свабода. Перагледзеў свае погляды па жыцці. Я зрабіў для сябе высноў, што шмат несправядлівасці па жыцці. Але добрых людзей больш, чым кепскіх.

Я задаволены, што нават у такіх умовах, але мне давялося пабыць са знакавымі людзьмі, як Мікола Статкевіч, Дзмітрый Ус. Статкевіч — мужны чалавек, сапраўдны мужчына, ён нідзе не прападзе. Ус таксама трымаўся малайцом, не зважаючы на свае хваробы.

Я пайшоў бы зноў на Плошчу, але не ўступаў бы ў сутычкі з міліцыяй. Мужчыны, якія сябе паважаюць, проста давалі адпор, калі ім спрабавалі разбіць ілбы. Ніякай зброі ні ў каго не было.

Калі мірных людзей, якія кажуць мірныя лозунгі, пачынаюць біць, то хапіла б нейкага аднаго крыку, сняжынкі, каб людзі сарваліся.

А міліцыя з народам усёткі. На Валадарцы ўсе ведалі артыкул, па якім я сяджу. Міліцыя казала, што ўсё, хлопцы, будзе добра, хутка будзеце на волі. Усе ж яны людзі, беларусы.

У турме шмат адэкватных людзей — бізнесоўцы, дактары. Многія казалі, што таксама былі б на Плошчу, каб не ў турме.

Фізічнага ціску на мяне не было. Ціснулі толькі тым, што прасілі падумаць пра родных, калі даю паказанні.

Я напісаў прашэнне аб памілаванні. У ім быў толькі адзін радок: «Прашу памілаваць мяне». Падпісаў, бо ў мяне засталіся матуля, сястра.

Зараз паеду ў вёску да бабулі [Грыбкоў з Карэліч], будзе ў мяне такі каўбасна-блінна-смятанны перыяд. Буду ляжаць на сене і ад'ядацца. Потым буду спрабаваць працаўладкавацца ў сталіцы. У мяне тут дзяўчына, якая вельмі падтрымлівала».

**Радыё «Свабода»**

## Алесь Кіркевіч: Вершы з турмы

Апоўдні ліпень прысыпае стружкай твары,
Драўніны пах — добры ўспамін
Аб тым, што недзе мак цвіце крывавы,
А з коміна віецца шэры дым.

Там людзі любяцца, працуюць,
наражаюць —
Гадуецца ў мурашніку чарговы дзень.
Яго не ўсмокча д'яблавае джала,
Не скрые злых этапаў цень.

Праз ягаду* ці шчыліну між кратаў
Мая літаратура кветкай прарасце.
Па полі мінным пройдзе зноў араты,
Каб хоць камусьці жыць было
прасцей!

*разнавіднасць калючага дроту.

**Алесь Кіркевіч** — намеснік старшыні «Маладога фронту», гарадзенец. Вучыўся на гістфаку Гродзенскага ўніверсітэта. Асуджаны да 4 гадоў зняволення за ўдзел у акцыі 19 снежня. Быў арыштаваны на шосты дзень пасля вяселля. Пакаранне адбывае ў наваполацкай калоніі. Там жа, дзе і Андрэй Саннікаў. У калоніі Алесь робіць будаўнічыя паддоны, а таксама піша вершы.

## Былая супрацоўніца КДБ: Буду хадзіць на акцыі

У Рэдакцыю звярнулася мінчанка Любоў Седарэйка. У яе ў часе адной з акцый маўклівага пратэсту затрымалі сына, пасадзілі яго на суткі.

Сама яна працавала ў КДБ у аддзеле сувязі, цяпер на пенсіі. 6 ліпеня каля Лядовага палаца ў Мінску быў затрыманы яе сын Барыс. Па словах жанчыны, малады чалавек чакаў там яе. Забралі яго ў 20.40 на вачах у спн. Любові — шасцёра «брытагаловых» схапілі і павалаклі ў аўтобус. Жанчына адзначае, што ніякай акцыі ўжо і не было. Яна спрабавала патрапіць у аўтобус, але яе груба штурхалі.

Спн. Любоў заўважае, як па рацыях перамаўляліся людзі ў цывільным. Маўляў, адзін пытаецца ў другога:

«Колькі ў цябе ў аўтобусе не хапае?» — «Сямнаццаць».

«Вось і хапалі каго заўгодна», — кажа жанчына.

Яна паскардзілася, што працяглы час не магла адшукаць сына. У РУУСах казалі, што Барыс знаходзіцца на Акрэсціна, а там скіроўвалі ў міліцыю. Выявілася, што сын быў адразу ў Фрунзенскім РУУС Мінска. Толькі пасля яго адправілі ў ізалятар на Акрэсціна. А затым — у Жодзіна. Сын гэты пераезд назваў самым жахлівым, што было за тыя дзесяць сутак арышту, да якога прысудзіла суддзя Жукоўская. Малады чалавек расказваў, што ў Жодзіне іх прымусілі бегчы па «калідоры» з людзей у масках з сабакамі.

«Я была далёкая ад палітыкі. А цяпер буду хадзіць на акцыі. І буду першай. Лепш я буду хадзіць супраць такога... Душа баліць».

Па словах спн. Любові, Барыс нармальна перанёс арышт. У камеры людзі падтрымлівалі адзін аднаго. Яна кажа, што нават задумваецца пра тое, каб «сын выехаў адсюль у любую краіну, дзе з людзей не здзекуюцца».

**Сяргей Макарэвіч**

# Яны зарабляюць па дзесяць мільёнаў у год

Нацыянальная баскетбольная асацыяцыя на мяжы адмены наступнага сезона. Кіраўнікі клубаў ніяк не могуць падпісаць калектыўную дамову, якая б рэгулявала правы клубаў і гульцоў. Многія лічаць, што лакаўт зможа крыху аздаравіць НБА.

### Dream team

Гісторыя Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі — гэта гісторыя шалёнага поспеху. Ліга была заснаваная ў 1946 годзе адзінаццацю клубамі з ЗША і Канады. Ужо праз нейкае дзесяцігоддзе Асацыяцыя робіцца наймацнейшым баскетбольным турнірам у свеце.

Па глядацкай папулярнасці НБА стаіць на абсалютным першым месцы. Хакейная, бейсбольная лігі Амерыкі саступаюць баскетаболістам у відовішчнасці. А яшчэ баскетбол куды больш даступны і зразумелы на іншых кантынентах спорт.

У Беларусі матчы НБА пачалі транслявацць у пачатку 1990-х. Гэта выклікала вялізны наплыў у баскетбольныя секцыі па ўсёй краіне. Здавалася неверагодным тое, што выраблялі на пляцоўцы Майкл Джордан, Мэджык Джонсан, Чарльз Барклі, Патрык Юінг.

Каста гульцоў НБА нашмат меншая, чым футбольная ці хакейная, і трапіць у яе ўжо было дасягненнем. Нават зборную ЗША, складзеную з зорак НБА, называлі не інакш як dream team (каманда мары), нібыта падкрэсліваючы яе абранасць і выключнасць.

### Не па сродках

Пэўна, гэта сляпая любоў і загубіла НБА. Мяркуйце самі: яшчэ ў 1985 годзе сярэдні гадавы заробак баскетбаліста складаў 330 тысяч даляраў у год. Па выніках мінулага сезона планка вырасла да $5,8 мільёна. То бок больш, чым у сямнаццаць разоў. У той самы час заробак сярэдняга амерыканца вырас толькі ўдвая.



Лакаўт Кобі Браянт вырашыў перачакаць на Філіпінах.

За адну гульню баскетбаліст НБА атрымлівае каля 71 тысячы даляраў. Пры гэтым прафсаюз гульцоў увесь час патрабуе новых, яшчэ больш выгадных кантрактаў.

Кіраўніцтва клубаў ніяк не застрахаванае ад крутога нораву сваіх падначаленых. Гэта ў футболе галоўны трэнер ці прэзідэнт каманды можа выкінуць з клуба спартсмена за кепскую гульню, фактычна, не плацячы яму няўстойку. У НБА ж гэта немагчыма.

Каб атрымліваць свой заробак, баскетбаліст павінен не прымаць допінг, не сварыцца з трэнерам і партнёрамі, не біцца з балельшчыкамі. Гэта ўсё. «Добра гуляць» у гэты кароткі спіс не ўваходзіць. Даходзіла да таго, што баскетбаліст «Мілуокі» Чарлі Віллануэла падчас гульняў сваёй каманды ўмудраўся пісаць пасты ў твітар.

Фактычна, ніякіх рычагоў уплыву трэнеры на сваіх гульцоў не маюць. Канечне, ёсць і суперпрафесіяналы, як Кобі Браянт. Але агульная выснова была адназначнай: НБА жыве не па сродках.

### Не — павышэнню заробкаў

Больш за 20 клубаў асацыяцыі з 30 знаходзяцца ў пазыках, якія бяруць, каб задаволіць усё большыя патрэбы ўлюбёнцаў публікі. Толькі лічаныя каманды сапраўды могуць дазволіць сабе такія выдаткі.

Сёлетні пратэст кіраўнікоў клубаў накіраваны на тое, каб збіць планку заробкаў баскетбалістаў. Спыніць яе імклівы рост. Усе разумеюць, што цяперашнія іх прыбыткі неймаверна завышаныя. І так далей працягвацца не можа.

Некалькі гадоў таму падобнае здарылася ў Нацыянальнай хакейнай лізе. Давялося адмяніць сезон, каб пайсці на зніжэнне заробкаў. Выглядае, што ў выпадку з НБА гэта будзе яшчэ больш эфектыўнай мерай. У сусветным баскетболе няма хакейнай Расіі, гатовай прымаць гульцоў з НХЛ на не менш выгадных умовах.

У Турцыі, Францыі, Італіі ці Расіі зорцы НБА не заплацяць і палову таго, што ў ЗША.

Самі ж баскетбалісты пакуль не вельмі смуткуюць. Вольны ад баскетбола час яны бавяць у сваё задавальненне — хто на пляжы на Філіпінах, хто спасцігаючы навыкі гульні ў гольф, а нехта трапляе ў аб'ектывы фатографаў разам з дзяўчатамі мадэльнай знешнасці.

### «Мне трэба праца... любая»

У амерыканскіх СМІ гэта паспелі назваць «Пірам падчас чумы». Твітары і фэйсбукі баскетбалістаў стракацяць наступнымі паведамленнямі: «Мне патрэбная праца... любая», «Я адкрыты для прапановаў. Магу пацяшаць народ на вяселлях і вечарынках, але маё сапраўднае прызванне — надзімаць паветраныя шарыкі ў форме звяркоў», «Абаму ж падабаецца спорт. Як ён мог такое дапусціць?», «Цяпер у супермаркетах я ўсё скупляю гуртам», «Цяпер ёсць час на старыя школьныя цацкі», «Думаю, можа, купіць яхту?».

Дзіўна, але нават маючы заробкі па дзесяць мільёнаў у год, некаторыя спартсмены ўмудраюцца поўнасцю збанкрутаваць яшчэ да сканчэння прафесійнай кар'еры. Справа ў тым, што многія баскетбалісты сыходзяць у НБА нават не скончыўшы школу, не навучыўшыся як след пісаць.

Зрэшты, вінавацiць ва ўсім баскетбалістаў няма як. Клубы самі іх разбэсцілі, патураючы іх жаданням. Цяпер спрабуюць выйсці з сітуацыі з найменшымі стратамі. Час на дамовы яшчэ ёсць, сезон НБА пакуль не страчаны.

**Зміцер Панкавец**

## Дзеля каго варта глядзець НБА

**1. Кобі Браянт.** Ён быў самым маладым гульцом НБА, што пераадолеў рубеж у 20 000 набраных ачкоў (закінуўшы ў кошык «штрафны», атрымліваеш 1 ачко, за патрапляннe з-за 6-метровай лініі — 3 ачкі, за астатнія — 2). Некалі ў гульні з «Таронта» ён набраў 81 пункт. Гэта другі паказчык у гісторыі. На сённяшні момант Браянт — самы выніковы дзейсны баскетбаліст свету. Ён мае круты нораў, любіць паказырыцца, пагарджае аўтарытэтамі. «Тое, што людзі бачаць на пляцоўцы, — гэта не я. Гэта цёмны пачатак Кобі Браянта, які больш болыш за ўсё не любіць і не ўмее прайграваць», — кажа Кобі.

**2. Цім Данкан.** Гэтага ўраджэнца Амерыканскіх Віргінскіх астравоў яшчэ называюць «Мерлінам», то бок чараўніком. Цім мае чатыры чэмпіёнскія пярсцёнкі НБА. Самае дзіўнае, што баскетболам ён пачаў займацца толькі ў чатырнаццаць гадоў. «Я не раблю нічога асаблівага. Проста кідаю мячык у бок кошыка і спадзяюся, што ён трапіць. Часам удаецца, часам — не», — кажа Данкан пра сваю працу.

**3. Шакіл О'Ніл.** Сёлета Шак вырашыў усё ж завяршыць кар'еру. Пра гэта ён паведаміў праз твітар. У 24 гады О'Ніл трапіў у спіс «50 найвялікшых гульцоў НБА». Цікава, што Шакіл ставіў перад сабой не толькі баскетбольныя мэты, у 2000-м, пасля васьмігадовай паўзы, ён атрымаў вышэйшую адукацыю ва ўніверсітэце Луізіяны. «Я абяцаў бацькам і сабе зрабіць гэта, і мне ўдалося. Людзі лічаць, што грошы і слава важныя, але гэта маленькая частка пірага. Каб быць абароненым, трэба мець адукацыю. Цяпер я спакойны, я магу атрымаць сапраўдную працу».

## Легенды НБА

**1. Майкл Джордан.** Адыграў найбольшую ролю ў папулярызацыі баскетбола ў свеце. Джордана называлі «Яго Лёгкасцю» за фантастычнае ўменне трымацца ў паветры, калі астатнія ўжо прызямляліся на пляцоўку. Ён па праву лічыцца самым знакамітым баскетбалістам у свеце. «Я прамазаў больш дзевяці тысяч кідкоў за сваю кар'еру. Саступіў у трохстах матчах. Дваццаць шэсць разоў мне давяралі рашаючы кідок і я прамахваўся. Я цярпеў шмат няўдачаў. Менавіта таму я і дабіўся поспеху», — сказаў Джордан.

**2. Мэджык Джонсан.** Ягонае сапраўднае імя Ірвін, але шмат гадоў яго называюць Мэджыкам, то бок «чароўным». Ён пяць разоў выйграваў чэмпіянат НБА, тройчы быў названы самым карысным гульцом лігі. У 1991 годзе Джонсан зрабіў заяву, што інфікаваны ВІЧ. Ён пакінуў баскетбол і прысвяціў сябе змаганню з распаўсюдам СНІДу. Тым не менш, ягоная папулярнасць была такая вялікая, што ён аж тройчы вяртаўся на пляцоўку. «Жыць кожны дзень як апошні — гэта адзіны спосаб, які дапамагае мне вытрымаць», — кажа Джонсан. Летась было заяўлена, што ён цалкам перамог ВІЧ.

**3. Карым Абдул-Джабар.** Яму па сённяшні дзень належаць рэкорды па выніковасці ў гульнях НБА. У найлепшыя свае сезоны Карым (пры нараджэнні Фердынанд Алсіндор) набіраў у сярэднім за гульню фантастычныя 32 ачкі. Таксама яму належаць рэкорды па колькасці праведзеных хвілін на пляцоўцы, блок-шотаў. Як і Джонсан, працаглы час ён змагаўся з цяжкай хваробай — лейкеміяй. Джабару належыць ці не самая знакавая тэхніка кідкоў — «нябесны крук».

**ЗП**




Для Майкла Джордана ў баскетболе не існавала ніякіх перашкод.

## Сцісла

• **Абаронца БАТЭ ў маскоўскім «Дынама».** Адзін з самых перспектыўных беларускіх футбалістаў Ігар Шытаў блізкі да пераходу з БАТЭ ў маскоўскае «Дынама». Хутчэй за ўсё, трансфер адбудзецца пасля гульняў барысаўскага клуба ў Лізе чэмпіёнаў са «Штурмам». «Дынама» паказвае вясёлы і прывабны футбол. Тым не менш, чакалі, што Шытаў з'едзе ў Заходнюю Еўропу.

• **Хабібуліна выпусцілі з турмы.** Расійскі варатар Мікалай Хабібулін адбыў 15-сутачны арышт у турме Арызоны (ЗША) за ваджэнне ў нецвярозым стане. Хабібулін жанаты з беларускай. Некалі ён прывозіў завяваны Кубак Стэнлі менавіта ў Мінск. Яго дачка гуляе ў вялікі тэніс, выступае за Беларусь.

• **Штраф за начны клуб.** Футбалісты зборнай Балгарыі пасля пройгрышу беларусам (0:1) вырашылі наведаць адзін з мінскіх начных клубаў. Хлопцаў сфоткалі з даўганогімі бландзінкамі. Трэнер зборнай Балгарыі немец Лотар Матэўс падаўся следам за футбалістамі. У выніку сямёра гульцоў былі аштрафаваныя.



Балгарскія футбалісты добра адпачылі ў Мінску.

• **Хакей на траве без перамог.** Беларуская жаночая зборная ў вырашальнай гульні саступіла шатландкам, гэта не дазволіла выйсці ў элітны дывізіён. Мужчыны ж ва ўкраінскай Вінніцы занялі апошняе месца і скаціліся з другога дывізіёна ў трэці.

**ЗП**

# «Дазвольце мне гаварыць з вамі на мове маёй маці»

Памяці Ядвігі Грыгаровіч. Піша яе аспірант **Раман Абрамчук.**

Адпяванне, арган Чырвонага касцёла, безліч людзей. Сярод іх — былыя студэнты, аспіранты — тыя, хто бачыў у Ядвізе Дамінікаўне больш, чым Галоўнага Адміністратара дзяржаўнай навучальнай установы.

Паступаў ва ўнівер з падсвядомым жаданнем творчасці. І атмасфера творчасці адкрылася мне праз драбніцу: малюнкі і вершы, вывешаныя якімсьці студэнтам на дошцы аб'яваў, выпадкова сустрэтыя Вераніка Круглова (Kriwi) і Піт Паўлаў (NRM), гукі дуды з універсітэцкіх аўдыторый (у «Кульку» вучыліся музыкі кожнага другога мінскага гурта, ад «Лепрыконсаў» да «Старога Ольсы»). Потым зразумеў, што гэтая атмасфера была нейкім нябачным чынам звязаная з той, хто кіраваў нашым «Кулькам» (дарэчы, Ядвіга Дамінікаўна вельмі не любіла гэтай назвы, так блізкай усім, хто скончыў гэтую ўстанову).

Рэктарку на першых курсах бачыў толькі на калідорах, і мне здзівіла, што яна (рэктарка!) можа проста падысці да групкі студэнтаў і ціха пагаварыць. Або памятаю, як яна адказвала на пытанні студэнцкай аўдыторыі (такое рэгулярна практыкавалася ва ўніверы) — пры гэтым шукала адказу на праблемнае пытанне разам са студэнтам, які яго задае.

Але вось і першыя сустрэчы: я — у складзе гістарычна-краязнаўчага таварыства «Этна». Ядвіга Дамінікаўна — у ролі «даху» над «неблагонадёжным» студэнцтвам.

Яе муж — колішні старшыня КДБ. Гэта давала магчымасць Ядвізе Дамінікаўне не толькі дапамагаць нам, аматарам беларушчыны, але і не выключаць студэнтаў з універсітэта за ўдзел у мітынгах...

Кажуць, на просьбу кіраўніка дзяржавы «говорить с ним по-нормальному», Ядвіга Дамінікаўна адказала: «Дазвольце мне гаварыць з вамі на мове маёй маці»...

**Яе муж — колішні старшыня КДБ. Гэта давала Ядвізе Дамінікаўне магчымасць дапамагаць «палітычна нядобранадзейным».**

Аднойчы ў адной паліклініцы я нарваўся на лекара, які патрабаваў ад мяне гаварыць па-расейску, прычым у грубай форме. Давялося напісаць скаргу. У выніку той лекар знайшоў мяне, маю альма-матэр (адзін супрацоўнік універсітэта ў кабінеце вечарам сам-насам доўга пераконваў мяне «адклікаць скаргу» дзеля майго ж дабра). Урэшце апантаны доктар накіраваўся на прыём да рэктара... Я нервова блукаў калідорамі, чакаючы «разборак» на найвышэйшым узроўні. Раптам «нарываюся» на рэктара.

Яна сама падыходзіць і... эмацыйна дзякуе за тое, што я зрабіў усё так, як зрабіў.

Потым было шмат чаго: парады з дысертацыяй (хоць усе бачылі, наколькі цяжка ёй, хворай на рак, працягваць працаваць), дапамога ўладкавацца на працу...

Але апагеем майго здзіўлення была размова пра... грошы. Нашае таварыства атрымала вялікі дзяржаўны грант. У шалёных галовах студэнтаў нарадзілася ідэя збудаваць Ладдзю Роспачы — сапраўдны драўляны човен з ветразем на ўзор т.зв. «Тураўскай ладдзі». Самі ледзь верылі ў сваю ідэю. Рэктарка адказвае: «Я заўжды падтрымлівала і буду падтрымліваць вашы ідэі. Заказаць будаўнічае дрэва з Мікашэвічаў? Так, рабіце». Яна умела стварыць атмасферу творчасці, рамантыкі.

Не раз чуў, як наракалі на Грыгаровіч, вінавацілі, выкрывалі, прычым даволі паважаныя людзі... У жыцці, мусіць, бываюць розныя сітуацыі. Але галоўнае не гэта. Галоўнае — стрыжань чалавека.

У канцы ўжо не хавала сваіх поглядаў. Адкрыта разважляла пра пасляснежаньскі «дурдом»...

Калі Ядвіга Дамінікаўна сышла з пасады рэктара, усё пачало змяняцца ва ўніверсітэце. Усё стала сушэйшым.

А спадарыня Грыгаровіч спачыла на Бабруйшчыне, каля ракі Бярэзіны. Вярнулася туды, адкуль пачынала свой шлях.



PHOTO.BYMEDIA.NET

# 21-гадовая дзяўчына перажыла клінічную смерць

Яе сям'і трэба дапамога.





Гэтая прыгожая маладая мама яшчэ ніколі не брала на рукі сваіх дзяцей — сына і дачку, не ўсміхалася ім, не бачыла іх першых крокаў.

Праз недагляд дактароў Глафіра Вінарская перажыла пры родах клінічную смерць і пасля гэтага ўжо два гады знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане. Дыягназ: вегетатыўны стан пасля перанесенай у родах клінічнай смерці, парушэнне сувязі паміж мозгам і перыферыйнай нервовай сістэмай. А Глафіры ўсяго толькі 23 гады.

На думку медыкаў, спадзявацца на вяртанне маладой мамы да нармальнага жыцця было немагчыма. Мама Глафіры Людміла Барысёнак распавяла: «Я думала, што дактары неяк абнадзеяць мяне. Скажуць: «Верце, цуды ўсё ж такі здараюцца». Але мне сказалі «ўсё дарма» і «вы неадэкватны», у вашай дачкі ідзе атрафія мозга». Праз некалькі месяцаў пасля родаў медыкі перавялі Глафіру ў хоспіс.

Жанчына правяла там толькі адну ноч. «З ранку я не пазнала сваё дзіця — уся напружаная, на вачах слёзы, тэмпература пад 40. Гэта дактары думалі, што такія хворыя нічога не разумеюць і не адчуваюць, а я ведаю — яна спужалася», — сказала мама Глафіры. Насуперак прагнозам медыкаў, яна цягне дачку да жыцця. Гігіенічныя працэдуры, масаж, корміць з лыжкі, шукае грошы для яе лячэння.

З часам Глафіра стала лепей рэагаваць на наведвальнікаў, не пужаецца, можа сама зрушыць нагу і зрабіць некалькі рухаў рукой. Яна навучылася сама сядзець і пры падтрымцы мамы стаяць каля сцяны. Калі прыязджаюць яе дзеці, паводзіць сябе асабліва актыўна: спрабуе павярнуць галаву ў бок дзіцячых галасоў, непакоіцца.

Гэта ўсё цешыць. Але вяртанне да нармальнага жыцця патрабуе вялізарных для сям'і грошай. З чэрвеня 2011-га маладая жанчына разам з маці знаходзіцца ў рэабілітацыйным цэнтры «Элеас». Гэта адзінае месца, супрацоўнікі якога пагадзіліся прыняць Глафіру Вінарскую на рэабілітацыю. Неабходныя працэдуры ў цэнтры на працягу 6 месяцаў каштуюць 30 мільёнаў рублёў. Акрамя гэтага, з'явілася магчымасць працягнуць лячэнне ў спецыяльным цэнтры для людзей з парушэннямі галаўнога мозга ў Ноўгарадзе. Тут людзей вучаць зноўку размаўляць, хадзіць, самастойна абслугоўваць сябе, адным словам, жыць далей.

Шмат людзей дапамагалі і працягваюць дапамагаць Глафіры Вінарскай. Прыходзяць грошы на дабрачынны рахунак. Але сродкаў усе роўна не хапае. Патрэбны мазі, лекі, аплата за знаходжанне ў рэабілітацыйных цэнтрах.

Нават невялікі ўнёсак робіць вялікую палёгку для усёй сям'і Глафіры. Акрамя дабрачыннага рахунка, грошы таксама можна пералічваць паштовымі пераводамі.

**Сям'я Глафіры выказвае вялікую ўдзячнасць за любую дапамогу.**

**Калі ж вы жадаеце дапамагчы не толькі грашыма, то тэлефануйце, калі ласка, па нумарах:**

(+375) 29 663 60 86 Алена (Velcom)

(+375) 29 633 73 57 і (+375) 29 407 64 10 Людміла

**Адрас для паштовых пераводаў:**

220101 г. Мінск, пр. Ракасоўскага, д. 108, кв. 21. Барысёнак Людміле Васільеўне (для лячэння і рэабілітацыі Вінарскай Глафіры Міхайлаўны).

**Дабрачынныя рахункі адчынены ў цэнтры банкаўскіх паслугаў № 524:** г. Мінск, вул. Фізкультурная, 31; УНП 100325912; МФО 153001795:

— беларускія рублі: транзітны рахунак № 3819382105243 на дабрачынны рахунак № 000016 у цэнтры банкаўскіх паслугаў № 524

— даляры ЗША: транзітны рахунак № 3819382105243 на дабрачынны рахунак № 000072 у цэнтры банкаўскіх паслугаў № 524

— еўра: транзітны рахунак № 3819382105243 на дабрачынны рахунак № 000010 у цэнтры банкаўскіх паслугаў № 524

— расійскія рублі: транзітны рахунак № 3819382105243 на дабрачынны рахунак № 000016 у цэнтры банкаўскіх паслугаў № 524

Назначэнне плацяжу: Для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Барысёнак Людмілы Васільеўны для лячэння і рэабілітацыі Вінарскай Глафіры Міхайлаўны

**Апроч таго, грошы можна пералічыць на электронны кашалёк EasyPay** ў беларускіх рублях №22484713

**Працуюць электронныя кашалькі Webmoney**

wmz: Z332480638547 у далярах

wmr: R267164955830 у расійскіх рублях

wme: E360806838615 у еўра

wmb: B846905406263 у беларускіх рублях

**Дадатковая інфармацыя аб атрымальніку сродкаў**: тэл. (017) 248-17-39, тэл. маб. (029) 649-17-39 (Velcom).

# Дзяржава дасць крэдыты на штучнае апладненне

Царква супраць такой працэдуры.

У Беларусі будзе створаная сістэма льготнага крэдытавання маладых сем'яў, хворых на бясплоддзе, для правядзення штучнага апладнення (ЭКА). Па ініцыятыве дэпутатаў такая мера падтрымкі прадугледжана ў Нацыянальнай праграме дэмаграфічнай бяспекі на 2011–2015 гады.

Штомесяц да ЭКА ў Беларусі звяртаецца прыкладна 200 жанчын, і штогод нараджаецца каля 700 дзяцей.

Эфектыўнасць ЭКА ў сярэднім складае 30–40%.

Супраць развіцця штучнага апладнення катэгарычна выступае Каталіцкая царква, якая параўновае яго з кланаваннем чалавека. «Касцёл, падзяляючы занепакоенасць праблемай бясплоддзя і заахвочваючы пошук новых метадаў яе лячэння, у той жа час катэгарычна супраць выкарыстання тэхналогій, якія супярэчаць хрысціянскаму разуменню гонару сям'і, бацькоўства, дзетараджэння і чалавечага эмбрыёна, а таксама значэння чалавечай сэксуальнасці», — гаварылася ў афіцыйнай заяве.

Увогуле ж, галоўны акцэнт у Праграме дэмаграфічнай бяспекі зроблены на тым, каб ініцыяваць з'яўленне ў сем'ях другога і наступных дзяцей. Паводле звестак сацыялагічнага апытання, кожная трэцяя маладая пара ў Беларусі хацела б мець больш дзяцей, але па нейкіх матывах на гэта не наважваецца.

Таму ў праграме дэмаграфічнай бяспекі прадугледжаныя меры для стымулявання нараджэння другога, трэцяга і наступных дзяцей. Напрыклад, павышэнне памеру дапамогі па даглядзе за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў. Пры нараджэнні першага — да 35% сярэдняга заробку ў краіне; пры нараджэнні другога і наступных — да 40%.

**Ягор Марціновіч; інф. БелТА**



PHOTO.BYMEDIA.NET

# Элітныя савецкія санаторыі ў занядбанні

За савецкімі часамі трэба было пастарацца, каб дастаць пуцёўку ў элітны санаторый. Іх выбівалі загадзя, па блаце. А цяпер у гэтых санаторыях абвальваецца цэгла. І там, дзе Ніл Гілевіч пісаў свае вершы, расце бур'ян.

### Разбураны санаторый ацанілі ўсяго ў 355 тыс. долараў

«Лясное» ў Валожынскім раёне пабудавалі ў пачатку 1970-х. У свой час гэта было элітнае месца для адпачынку.

Цяпер апісанне санаторыя можна адшукаць на сайтах для аматараў экстрэмальнага адпачынку. У такіх будынках сталкеры ладзяць спаборніцтвы. «Толькі не палохайцеся — закінуты велізарны будынак, вышынёй з 10-павярховы дом, з вежай-вышкай у выглядзе карабля, сапраўды выклікае панурае ўражанне», — чытаем апісанне на форуме сталкераў. Занядбаным санаторый стаў пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. Тады на зямлі вакол санаторыя выпала радыяцыя.

«За гэты час будынак каму толькі ні належаў: і Міністэрству сувязі, і Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва, пасля вось нашаму прадпрыемству. У нас яго абяцала выкупіць Міністэрства аховы здароўя — для прымусовага лячэння хворых на сухоты, але пасля яны адмовіліся ад гэтага», — заўважае дырэктар Пётр Лісоўскі. Ён дадае, што ў ліпені будынак выставілі на аўкцыён. Прадпрыемства-ўладальнік выставіла кошт у эквіваленце 354 900 долараў. Купец не знайшоўся.

Дарэчы, зусім побач з санаторыем захаваліся рэшткі палаца Тышкевічаў. Засталіся толькі сцены і перагародкі. Побач мясцовыя жыхары пасадзілі бульбу.

### Пісьменнікі згубілі «Дом творчасці»

На іншым беразе Іслачы калісьці таксама віравала жыццё. Тут знаходзіцца «Дом творчасці», куды на адпачынак прыязджалі беларускія літаратары. Пісьменнікам давялося прадаць санаторый — пасля распаду СССР утрымліваць яго было занадта дорага для грамадскай арганізацыі. Яго набылі за 5,5 млрд руб. Сёння будынак занядбаны і чакае рэканструкцыі. Выбітыя вокны, раскіданыя ў бібліятэцы кнігі — будынак як быццам бы пасля катастрофы.

### На месцы савецкага пансіяната — «Рыцарскі замак»

Такі самы лёс мог чакаць і пансіянат Саюза тэатральных дзеячаў. У канцы 80-х у Астрашыцкім гарадку ля Мінска пабудавалі трохпавярховы дом для адпачынку. Каля 15 год гэты пансіянат ніхто не абслугоўваў. А некалькі год таму яго вырашылі аднавіць. Старшыня ТАА «Рыцарскі замак» Дзмітрый Нясцюк узгадвае, як паўтара года тут выпраўлялі праблемы з каналізацыяй, аднаўлялі сантэхніку.

Цяпер кліентаў тут чакаюць круглы год. Стала працуе кухня, кафэ.

### У чаканні інвестара

Тым часам дзясяткі санаторыяў працягваюць панура стаяць у беларускіх лясах. У кожнага з іх фармальна ёсць гаспадары, але ў прадпрыемстваў хапае іншых клопатаў.

Закінутыя беларускія санаторыі могуць ажыць. Зараз яны чакаюць гаспадарлівага інвестара. І застаецца спадзявацца, што да гэтага часу іх не раскрадуць да апошняй цэглы «прадпрымальныя грамадзяне».

**Паводле Tio.by**

## Мінабароны забараніла будаўніцтва ветравых электрастанцый пад Дзяржынскам

Яны могуць перашкодзіць працы радараў.

У ліпені 2010 года Мінскі аблвыканкам і нямецкая кампанія Enertrag AG падпісалі інвестыцыйную дамову пра будаўніцтва ветрапарка магутнасцю 160 Мвт. Кошт праекта складае каля 360 мільёнаў еўра. Планавалася, што першы ў Беларусі прамысловы ветрапарк з'явіцца каля вёскі Волма Дзяржынскага раёна. Гэты комплекс мог выпрацоўваць каля 170 млн кВт/г электраэнергіі, што адпавядала гадавому забеспячэнню двух такіх раёнаў, як Дзяржынскі.

Аднак Мінабароны не ўхваліла будаўніцтва ветракоў. Аказалася, што «ветракі» могуць парушыць працу радараў ля Койданава.

Цяпер для будаўніцтва ветрапарка шукаюць іншую пляцоўку. У якасці варыянтаў разглядаюцца Лагойшчына і Барысаўшчына.

**Сяргей Гезгала; інф. tut.by.**

# Зборную Беларусі па хакеі будзе трэніраваць фін

Кары Хейкіля падпісаў кантракт на тры гады.



Эпапея з галоўным трэнерам для зборнай доўжылася ўсё лета. Называліся прозвішчы нашага Уладзіміра Крыкунова і латыша Алега Знарока, але іх не адпусцілі расійскія клубы. Разглядаўся нават варыянт са скандальным Міхаілам Захаравым.

Праблема ўзнікла пасля апошняга чэмпіянату свету, калі Беларусь выступіла няўдала і ледзь захавала прапіску ў эліце. Эдуарда Занкаўца папрасілі вызваліць пасаду.

Хейкіля 51 год. Ён выступаў у Фінляндыі, Швецыі, Італіі, а таксама ў ніжэйшых лігах Паўночнай Амерыкі.

Трэнерскую кар'еру пачаў у 35 гадоў у шведскім «Сунсвале». У 2004 годзе перабраўся ў Расію, дзе працаваў з яраслаўльскім «Лакаматывам» і магнітагорскім «Металургам». З «Лакаматывам» ён заваёўваў срэбры і бронзу чэмпіянату Расіі і КХЛ.

Кантракт з Хейкіля заключаны з прыцэлам на першынство свету-2014, якое пройдзе ў Мінску. Раней зборную трэніравалі замежныя спецыялісты — канадзец Глен Хэнлан і амерыканец Курт Фрэйзер.

**Зміцер Панкавец**

# Генерала памілавалі, падпалкоўніка — не

Падпалкоўнік, які будаваў катэдж для генерала Хацько, па-ранейшаму пад следствам.

Самаго ж экс-генерала памілавалі і нават захавалі пенсію.

У судзе Кастрычніцкага раёна Гродна працягваецца працэс па справе былога кіраўніка гродзенскай міліцыі экс-генерала Генадзя Хацько («НН» №30 за 10 жніўня 2011). Яго намеснік па гаспадарчай часці Сяргей Руднік абвінавачваецца ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Менавіта ён на загад свайго начальніка задзейнічаў на будоўлі генеральскага катэджа ведамасную тэхніку. Гэты факт і лёг у аснову абвінавачвання ў перавышэнні паўнамоцтваў. І вось тут узнікае парадокс. Падпалкоўнік Руднік, які выканаў незаконны загад, па-ранейшаму застаецца пад судом, а яго начальнік вызвалены ад адказнасці загадам Лукашэнкі. Ды яшчэ як вызвалены. Былому начальніку міліцыі вярнулі арыштаваную маёмасць, пакінулі генеральскую пенсію, а кампенсацыя дзяржаве за катэдж, рынкавая цана якога складае каля $200 тысяч, склала 30 мільёнаў беларускіх рублёў. Нават па дакрызісным курсе гэта менш за 20-ю частку цаны дома. Акрамя таго, экс-генерал не панёс ніякай адказнасці за ўцёкі ад следства ў Расію.

**Сямён Печанко**

# Апакаліптычны шторм

**Цэнтральная Беларусь пацярпела ад стыхіі. У Валожыне вада заліла 85 падворкаў, пад Слуцкам выпаў град з галубінае яйка.**




На выходных Цэнтральная Беларусь зазнала ўдар стыхіі. Залевы прайшлі шырокай смугой ад Маладзечна да Гомеля, праз Мінск, Бабруйск. Моцны дождж суправаджаўся грымотамі, а дзенідзе падмяняўся градам. Ад Маладзечна і аж пад Слуцк град месцамі быў памерам з галубінае яйка. Кіроўцы на трасах укрывалі свае машыны хто чым мог.

Такога ў краіне не бачылі год — летась градзіны анамальных памераў пабілі шыферныя стрэхі і шыбы аўто на Мядзельшчыне.

Сёлета град заспеў кіроўцаў аўто на слуцкай шашы, на мяжы слуцкага і ўздзенскага раёнаў. «Градзіны з бульбіну, а машыны ад іх слядоў як рэшата, выбівала нават шкло...» — распавядалі відавочцы. Паводле іх словаў, граду было столькі, што ён укрыў зямлю, нібы снег.

Стыхія спрычынілася і да трагічных дарожных здарэнняў, у выніку якіх дзевяць чалавек атрымалі раненні і адзін загінуў. ДТЗ са смяротным вынікам здарылася ля вёскі Ленькі Слуцкага раёна, дзе ў залеву сутыкнуліся Volkswagen Sharan і мікрааўтобус. Загінула пасажырка Sharan — пенсіянерка 1954 года нараджэння.

З населеных пунктаў гэтым разам найболыш пацярпеў Валожын. У штучным вадасховішчы на рацэ Валожынцы вада ўзнялася на пяць метраў і прарвала дамбу — не вытрымалі бетонныя пліты. На бліжэйшых вуліцах, паводле МНС, было затоплена 85 хатаў, эвакуявана 60 чалавек. Разбураны мост.


Неба над Мінскам мела фантастычны колер.


Патоп на вуліцах сталіцы.


Град на Гродзенскай шашы.

Шкода ад разгулу воднай стыхіі ў Валожыне папярэдне ацэньваецца ў 510 мільёнаў рублёў. Людскім падворкам вада нашкодзіла на 142 мільёны. Цяпер складаюцца спісы на кампенсацыю шкоды з бюджэту.

Заліло па вокны і вёску Студзёнкі ў Нясвіжскім раёне.

У Мінску ж абышлося без граду. Навальніца з залевай прыйшла бліжэй пад вечар. Неба на пэўны час афарбавалася ў фантастычны залаты колер. Вуліцы ў ніжэйшых месцах, накшталт Адзінцова,ператварыліся ў рэкі.

**Сяргей Мікулевіч**

## Сцісла

**• Жорстка збіў маці і выкінуў паміраць.** У адной з «маласямеек» у Баранавічах маці з сынам выпілі, а потым пасварыліся з-за пульта ад тэлевізара. 26-гадовы дзяцюк збіў 46-гадовую маці, а потым выштурхнуў яе ў агульны калідор. Збітая жанчына некалькі гадзін праляжала на падлозе, але ніхто з суседзяў не выклікаў медыкаў. Жанчына памерла. Мужчына раней быў судзімы за спробу забойства. Распачатая крымінальная справа.

**• Венесуэльскага дыпламата злавілі п'янага за рулём.** ДАІ спыніла другога сакратара пасольства Венесуэлы Ціні Дзі Ларэнца Луіджы Джавані а 4-й раніцы. Ад медагляду дыпламат адмовіўся, на яго склалі адміністрацыйны пратакол. За лета гэта ўжо другі выпадак затрымання нецвярозага замежнага дыпламата за рулём. 2 ліпеня ў Мінску быў затрыманы аташэ пасольства Італіі Маўрыцыа Крачатэлі.

**• Крымінальная справа супраць «нудыстаў».** Чацвёра нецвярозых мужчын днём у поўным негліжэ прайшліся па Баранавічах. Сведкі «парада нудыстаў» патэлефанавалі ў міліцыю, іх затрымалі. Усе затрыманыя раней былі судзімыя, некаторыя — неадназразова. Узрост «нудыстаў» — ад 23 да 38 гадоў. Распачатая крымінальная справа за хуліганства.

**• Поле канопляў проста ў горадзе.** У Слоніме Гродзенскай вобласці міліцыя выявіла і знішчыла цэлае поле дзікарослых канопляў. Каля 20 сотак наркатычнай расліны расло ў межах... горада, непадалёк ад ажыўленай трасы.Дзікія каноплі таксама лічацца наркотыкам. За захоўванне канабіса пагражае ад 2 да 5 гадоў турмы, а за збыт і распаўсюд — ад 5 да 13 гадоў.

**• Баявыя беларусы.** Два пасажыры цягніка «Гомель—Санкт-Пецярбург» — 28-гадовы, які працуе ў адной з фірмаў у Расіі і 21-гадовы менеджар беларускай фірмы — беспадстаўна збілі трох праваднікоў і двух пасажыраў. Інцыдэнт адбыўся ўначы. Падазраваныя былі нецвярозыя. За хуліганства затрыманым пагражае да 6 гадоў турмы. Абодва яны з Гомеля.

**• На гастарбайтара ўпаў пагрузчык.** 53-гадовы гастарбайтар з Беларусі працаваў на будоўлі Алабяна-Балтыйскага тунэля на Ленінградскім праспекце Масквы. На яго ў катлаван рухнуў пагрузчык. Паранены яшчэ адзін беларус, які паспеў трохі адскочыць.

**• У Крыме патанула яхта з беларусамі.** За 750 метраў ад берага затанула прагулачная лодка. У разліччанай на 12 чалавек пасудзіне знаходзілася 34 асобы, з іх 6 грамадзянаў Беларусі. Пацярпелых няма. Лодкай кіраваў 35-гадовы сын уласніка судна. Ён быў нецвярозы.

**• Разня на востраве Джэрсі.** 30-гадовы эмігрант з Польшчы Даміян Жэшоўскі, разышоўшыся з жонкай, забіў яе, двух іх дзяцей, цесця, сяброўку жонкі і яе дачку. Трагедыя адбылася на брытанскім востраве Джэрсі, што ў праліве Ла-Манш. Забойца затрыманы. Ён знаходзіцца ў бальніцы.

**• Выжыў, трапіўшы пад цягнік.** Аварыя адбылася на чыгуначным пераездзе ля станцыі Аляхновічы. Мясцовы жыхар за рулём службовага легкавіка «Аўдзі» паехаў на забаронены сігнал семафора. У выніку адбылося сутыкненне з цягніком. Кіроўца трапіў у бальніцу з сінякамі і ранамі галавы, рэзанай ранай правага вуха.

**СП**



## «Газель» з памежнікамі сутыкнулася лоб у лоб з «Фальксвагенам»

15 жніўня ў Бераставіцкім раёне на трасе «Баранавічы—Гродна» адбылося лабавое сутыкненне «Газелі» памежнай службы і «Фальксвагена-Пасата». Загінуў вайсковец, маёр, пасажыр «Газелі». Яшчэ шэсць чалавек трапілі ў бальніцу. Непаўналетняга, які ехаў у «Фальксвагене», пасля аказання дапамогі з медустановы адпусцілі. Прычыну аўтаавары высветліць следства.

**Паводле Gaigrodno.by**

# Чым пагражае «МТБанку» уцечка інфармацыі?

Некалькі тысяч канфідэнцыйных анкет апынуліся ў інтэрнэце.

Увечары 10 жніўня на сайце «МТБанка» ў вольным доступе з’явіліся прыватныя дадзеныя людзей, якія пакінулі заяўкі на крэдыт. Здарэнне выклікала бурную рэакцыю сярод інтэрнаўтаў, праўда, праз гадзіну ўцечку ліквідавалі. Некаторыя карыстальнікі, чые сябры бралі крэдыт у «МТБанку», нават вырашылі падаць у суд на банк.

У інтэрнэт трапілі не менш за 5 000 анкет патэнцыйных кліентаў банка: адрасы, прыбыткі, фотаздымкі і нават дзявочыя прозвішчы. Канфідэнцыйныя дадзеныя з’явіліся на чатырох буйных файлаабменніках, і выдаліць іх адтуль аказалася немагчыма.

Чым можа скончыцца такое непаразуменне? Па-першае, можа знізіцца ўзровень даверу кліентаў да банка. Заўважана, што часцяком банкі проста перакупляюць супрацоўнікаў канкурэнтаў і правакуюць уцечкі. Далейшых сцэнароў можа быць некалькі.

Першы: банк пачне імкліва губляць кліентуру, што асабліва адчувальна ў часе крызісу.

Другі: у выпадку «нядобразычлівай канкурэнцыі» кіраўніцтва іншага банка, што валодае інфармацыяй аб патэнцыйных кліентах, можа прапанаваць асабіста кожнаму неатрыманы крэдыт ці крэдыт на больш выгадных умовах. Для Беларусі такія выпадкі нехарактэрныя, але пакуль ідзе расследаванне, нельга быць упэўненым у матывацыі ўзлому.

Трэці: калі сярод «уцеклых» дадзеных ёсць і анкеты кліентаў банка, то варта чакаць серыі судовых працэсаў, што таксама знізіць рэпутацыю банка.

З’яўленне сакрэтнай інфармацыі ў вольным доступе можа справакаваць успышку крадзяжоў. Для расійскай паўсядзённасці гэта ўжо звыклая з’ява.

Кіраўніцтва МТБанка заявіла, што гаворка ідзе не пра спіс кліентаў, а пра фізічных асоб, якія афармлялі на сайце банка папярэднюю электронную заяву на атрыманне крэдыту. Са зместу названых заяваў нельга высветліць вынік іх разгляду, а тым больш атрымаць звесткі аб умовах канкрэтных заключаных дамоваў. Спачатку з’явілася версія, што ўцечка адбылася з хостара, а не з унутранай сістэмы банка. Аднак кампанія Active Technologies у каментары «НН» адхіліла такую магчымасць. Зараз прадстаўнікі кампаніі вядуць расследаванне сумесна з банкам.

«МТБанк» прызнаў за сабой адказнасць за здарэнне і прынёс прабачэнні пацярпелым.

Трэба згадаць і пра тое, што пункт «дзявочае прозвішча маці», які мусіў выкарыстоўвацца як пароль, інтэрнэт-карыстальнікі выбіраюць таксама і як «сакрэтнае пытанне» пры рэгістрацыі электроннай пошты. Па неправераных звестках, за вечар пасля «зліву» дадзеных было ўзламана не менш як пяцьдзясят паштовых скрыняў.

**Юрась Ускоў**

## Пракуратура: гродзенскія даішнікі перавысілі паўнамоцтвы, збіўшы ваўкавыскага доктара

Міліцыянты атрымалі дысцыплінарнае спагнанне.

Скандальная гісторыя са збіццём даішнікамі доктара ваўкавыскай бальніцы абляцела большасць беларускіх СМІ. Гродзенская міліцыя адмятала любыя прэтэнзіі ў свой бок, а Ваўкавыск бурліў — пацярпелага доктара ўсе ведалі як сумленнага прынцыповага чалавека.

Кропку ў спрэчцы паставіла абласная пракуратура: вінаватая міліцыя. Але пакараюць міліцыянтаў мякка — дысцыплінарнымі спагнаннямі.

«Пракуратура палічыла дзеянні супрацоўнікаў ДАІ неправамернымі, — заявіў пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў. — Як ахоўнік закона заяўляю, што ў дадзеным выпадку прымяненне відэаздымання не было прадугледжана заканадаўствам. Гэта асабістая ініцыятыва супрацоўнікаў ДАІ, якія такім чынам вырашылі падстрахавацца, каб п’яны кіроўца не сышоў ад адказнасці. Што да прымянення наручнікаў, то відавочна, што працаўнікі ДАІ перавысілі свае паўнамоцтвы, пра што праінфармавана кіраўніцтва УУС. Цяпер скончваецца праверка, якую праводзіць служба ўласнай бяспекі УУС, супрацоўнікі міліцыі будуць дысцыплінарна пакараны.

На мінулым тыдні працаўнікі ДАІ асабіста прынеслі свае прабачэнні доктару. Ён прыняў прабачэнні, цяпер канфлікт цалкам вычарпаны».

**Ягор Марціновіч, паводле «Наш час»**

КАМЕНТАР

## Нацыя нядзараў ці права маем?

Не мае будучыні краіна, дзе пануе філасофія: «Не скрадзеш — не пражывеш».

Артыкул Таццяны Шапуцькі пра нелегальныя заробкі кіроўцаў міжнародных аўтобусных рэйсаў выклікаў нежартоўныя жарсці. Толькі на сайце NN.BY чытачы пакінулі пад ім каля 150 каментароў. Аўдыторыя падзялілася на два лагеры: адны абвінавацілі аўтарку ў стукацтве, другія заступіліся за яе.

Што характэрна — за махляроў-кіроўцаў уступіліся найперш беларускамоўныя чытачы, студэнты еўрапейскіх універсітэтаў, частыя госці заходніх краінаў. Больш за тое, некаторыя з іх пры гэтым не толькі апраўдвалі махляроў, але і падводзілі пад свае перакананні ідэалагічную базу. «Кожны зарабляе як можа», — пісаў студэнт ЕГУ. «Усё правільна, ні кроплі рэжыму! Толькі ШОС!» — даводзіў іншы каментатар. Трэці запатрабаваў: пусціце нас спачатку ў Еўропу, вось тады мы і зажывём па законах.

Аднačасова з публікацыяй яе расследавання на гродзенскім блогу S13 разгарэлася падобная дыскусія. Аўтар блогу выклаў фота кіроўцы аўтобуса, які нібыта хаваў у багажнік свайго аўто скрадзенае казённае паліва. Ці не палова каментатараў завяла тую ж песню: «Навошта «спалілі» кіроўцу? Змог зліць — яго шчасце».

Абодва выпадкі яднае не толькі падабенства тэмаў, але і стаўленне часткі аўдыторыі да галоўных персанажаў гэтых гісторый. Маўляў, не чапайце простых людзей, якія «круцяцца» (крадуць) для таго, каб выжыць у няпростай эканамічнай сітуацыі.

Такая рэакцыя — фактычна, дыягназ сучаснаму беларускаму грамадству.

У часы сталінскай калектывізацыі крадзеж быў сапраўды спосабам выжыць у літаральным сэнсе. У той час не было іншых варыянтаў. Сёння ж ніхто не забараняе зарабляць на сябе, але беларусы па звычцы працягваюць шкадаваць злодзеяў, кіруючыся савецкай філасофіяй «Не скрадзеш — не пражывеш». Напэўна, у падтрыманні культу лёгкага хлеба вінаватая ўлада. Але і грамадства, якое не толькі не пратэстуе, а яшчэ і ўхваляе падобнае, нясе роўную адказнасць за гэта.

У каментарах да артыкула Таццяны Шапуцькі хтосьці згадаў Радзіёна Раскольнікава. Сітуацыя і сапраўды амаль паводле Дастаеўскага. Самы час запытацца, перафразаваўшы Фёдара Міхайлавіча: мы нацыя нядзараў ці права маем? Краіна, дзе на ўсіх узроўнях культывуецца магчымасць нелегальна зарабіць, не мае будучыні.

**Сямён Печанко**

## Вілейскае вадасховішча пасінела натуральным чынам

Афіцыйныя асобы абвяргаюць версію хімічнай катастрофы.

У мінулы аўторак адзін з чытачоў «НН» даслаў здымкі з Вілейскага вадасховішча — ядавіты блакітна-зялёны колер вады напалохаў мясцовых жыхароў. Гэтаксама як і мёртвыя рыбы, што былі аблепленыя той самай субстанцыяй.

Адразу ж узнікла некалькі версій здарэння на вадасховішчы: нехта казаў пра хімічныя рэчывы, спецыялісты па хіміі настойвалі, што такая карціна можа быць выклікана прыроднымі з’явамі, біёлагі казалі пра магчымасць «цвіцення» вады. Не варта забывацца, што ажно тры раёны Мінска (Фрунзенскі, Маскоўскі і часткова Кастрычніцкі) атрымліваюць пітную ваду менавіта адсюль.

Прадстаўнікі Мінпрыроды 10 жніўня ўзялі аналіз вады з вадасховішча. «Нічога страшнага ў вадзе няма, — паведаміў Сяргей Заўялаў, начальнік упраўлення рэгулявання ўздзеяння на водныя рэсурсы. — Там няма такога відовішча, як на фотаздымках у інтэрнэце».

Папярэдняя афіцыйная прычына — цвіценне сініх водарасцяў, якое асабліва ўзмацнілася праз спёку. Тым жа тлумачыцца і смяротнасць рыбы — водарасці маюць у сабе пэўную колькасць таксінаў, якія адфільтроўваюцца пры ачыстцы вады для падачы ў горад.

Аднак у мінулыя гады жыхары Вілейкі ніколі нічога падобнага не бачылі. Больш звыкла выглядае жоўта-зялёная вада ад водарасцяў.

У мінулым годзе, калі тэмпература паветра была яшчэ вышэйшай, якасць вады таксама зніжалася. Гэта прымушала праводзіць дадатковае хлараванне.

Аднак піць такую ваду можна.

«Мы ўжо маем вынікі першых пробаў, — расказала «НН» намесніца начальніка лабараторыі Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу Таццяна Фамінова. — У нас на Вілейскім вадасховішчы ёсць два створы. Першы — ля Кастыкаў, другі — ля Вілейкі. Кіслотнасць, узровень кіслароду і іншыя паказчыкі ў норме. Сіняй вады мы, дарэчы, не бачылі. Была зялёная ад ціны. Піць ваду з гэтага вадасховішча можна спакойна, калі кіслarод у норме, значыцца, вада ў парадку».

**Юрась Ускоў**




## У Глыбокім невядомыя расстралялі фасад райвыканкама з пейнтбольнай вінтоўкі

Пяць плямаў карычневай фарбы з’явіліся на фасадзе райвыканкама ў Глыбокім. Імаверна, па будынку стралялі з пейнтбольнай вінтоўкі. Дзве плямы трапілі на білборд з выявай камбайнёраў, тры — на сцены.

Акты вандалізму — звычайная справа для Глыбокага. Але ўпершыню іх «ахвярай» стаў райвыканкам.

**КШ**

# «Смак беларускай мовы» на вуліцах Мінска



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Новая сацыяльная рэклама папулярызуе беларускую мову з дапамогай ягадаў.

Першы білборд з вялікай выявай кавуна з серыі «Смак беларускай мовы» з’явіўся на вуліцы Багдановіча. Фотаздымак ягады на белым фоне суправаджаецца подпісам «кавун» і перакладам на рускую мову.

Пры дапамозе гэтай рэкламы мяркуецца папулярызаваць беларускую мову, а таксама паказаць яе хараство і чароўнасць.

Кіраўніцтва прадпрыемства «Белзнешрэклама» якому належыць ідэя і ўвасабленне такіх білбордаў, тлумачыць свой выбар так: «Беларуская мова мае непараўнальнае зачараванне, сакавітае гучанне, спецыфічны каларыт, гэта сапраўды ўнікальная мова, самая мілагучная пасля італьянскай і самая старажытная сярод славянскіх моў».

Такім чынам, на мінскіх вуліцах хутка з’явяцца тлумачэнні, што такое: «кавун», «ажыны», «шыпшына», «агрэст», «журавіны» і «суніцы».

Маркетолаг прадпрыемства Вольга Ціхановіч расказала, як з’явілася ідэя «сакавітай рэкламы»: «Гэта вынік працы «калектыўнага розуму». Мы вырашалі, на якую тэму стварыць сацыяльную рэкламу, і вырашылі, што лепш за ўсё будзе папулярызаваць беларускую мову. А ягады — вельмі смачная тэма, беларуская мова, яна ж сама па сабе вельмі сакавітая. Мы гэты праект распачалі разам з Акадэміяй навук».

Пакуль «Белзнешрэклама» абмяжуецца «садавінай». Неўзабаве ў горадзе з’явіцца яшчэ некалькі светлавых білбордаў з шасцю рознымі ягадамі.

«Білбордаў будзе штук восем, — кажа дырэктар прадпрыемства Дзяніс Моўчан. — Адзін, напрыклад, на плошчы Якуба Коласа. Літаральна праз два-тры тыдні нашы ягады будуць усталяваныя на праспекце Незалежнасці».

Што тычыцца іншых тэмаў, то на бліжэйшы год нічога акрамя ягадаў чакаць не даводзіцца — прадпрыемства траціць на сацыяльную рэкламу ўласныя грошы. Але пасля, магчыма, і ўдасца зрабіць яшчэ штонебудзь цікавае.

Да пытання папулярызацыі мовы з дапамогай білбордаў спадар Моўчан з іроніяй адзначыў: «Прынамсі, мы ўжо бачылі, як людзі фатаграфуюцца ля нашай рэкламы — чым не папулярызацыя. Вось калі б забараніць расійскую мову — вось тады б папулярызацыя адбылася сама сабой».

**ЮУ**

## Сцісла

• **Наклады беларускіх кніг папаўзлі ўніз.** Нацыянальная кніжная палата падвяла вынікі кнігавыдання за першае паўгоддзе 2011 года. Так, сёлета ўжо зарэгістравана 5 610 кніг. Іх агульны тыраж склаў 17 033 000 асобнікаў. У параўнанні з першым паўгоддзем 2010 года колькасць кніг паменшылася на 4,1%. Больш значна знізіўся аб’ём кніжнай прадукцыі — на 15,6%.

• **Дзень вулічнай музыкі ў Мінску.** 10 верасня на Дзень горада ў Мінску адбудзецца першы беларускі Дзень вулічнай музыкі. Праўда, акрэсленымі правіламі ён больш нагадвае савецкі Першамай. Правіла першае — ніякай палітыкі. Кожны выканаўца мае права сыграць пяць кампазіцый. У спецыяльнай анкеце мусяць быць пазначаныя аўтар, назва, час гучання. І галоўнае — кароткі змест (не менш за 30 словаў).

• **Прэс-фота Беларусі—2011 у Гродне.** Выстава працаў пераможцаў конкурсу «Прэс-фота Беларусі—2011» будзе працаваць ад 18 жніўня да 4 верасня ў галерэі «Крыга» (вул. Савецкая, 3—11). Арганізатары спадзяюцца, што гэтым разам выстава ўсё ж адбудзецца. Дзве папярэднія спробы ў Мінску і Маладзечне сарваліся. У першым выпадку адмовіў Музей гісторыі Мінска, кіраўніцтва якога было «здзіўлена нізкім эстэтычным узроўнем здымкаў пераможцаў». Другой перашкодай на шляху выставы стаў «нечаканы» рамонт у ДК Маладзечна.

• **На 80-м годзе жыцця памёр гісторык Якаў Трашчанок**, якога Лукашэнка зрабіў галоўным гісторыкам Беларусі. Гісторык Генадзь Сагановіч ахарактарызаваў падручнікі Трашчанка як цынічную кпіну з беларускай гістарычнай навукі.

**АС; «ЛіМ»**

# Расонскі ідал:

## унікальная знаходка альбо містыфікацыя?

На дне ракі Дрыса знайшлі загадкавую скульптуру.

Сенсацыйная знаходка ў Расонскім раёне: фігура чалавека, высечаная з цэльнага дубовага сука. Магчыма, гэта старадаўні ідал. Аднак гісторыя яшчэ патрабуе дакладнай навуковай праверкі.

Выявілі драўлянае божышча выпадкова. У 1991 годзе падводны паляўнічы з Полацка адпачываў на Дрысе. Яго зносіла плынь і, шукаючы апоры, чалавек ухапіўся рукой за тапляк. Разгледзіўшыся, заўважыў, што корч мае чалавечыя рысы. Паляўнічы падзівіўся са знаходкі, але не болей. Толькі месца запомніў. А праз дваццаць гадоў у гутарцы са знаёмым археолагам ён успомніў пра драўляную статую на дне ракі...

Госць з іншага часу чакаў археолагаў у тым самым месцы, на чатырохметровай глыбіні. Каб дастаць яго з ракі, давялося грунтасмокам размыць пясчанае дно, а потым з дапамогай спецыяльнага прыстасавання, накшталт паветранага шара, перанесці ідала на плытчэйшае месца. Выцягнуць яго з ракі было няпроста: стод вышынёй у 120 см важыць паўтара цэнтнера.

Як ідал трапіў у раку? Загадчык кафедры гісторыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта Дзяніс Дук лічыць, што хутчэй за ўсё ідал быў падпалены і патоплены падчас хрысціянізацыі.

Пашанцавала, што ён мае шырокую трывалую аснову і ўпаў у ваду вертыкальна, інакш бы яго занесла пяском. Аднак для ўзросту ў тысячу гадоў фігура захавалася проста выдатна.

Статую адправілі на экспертызу ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук. Там выверацьсапраўднасць і ўзрост статуі.

«Падробку спецыялісты падчас экспертызы апазнаюць адразу, — кажа археолаг Максім Чарняўскі. — Гэты ідал цалкам можа аказацца сапраўдным. У нашай практыцы падробкі сустракаліся не адзін раз, і заўжды ў іх ёсць адна асаблівасць: падробленыя паганскія скульптуры былі надта ўжо выкшталцоныя — як кажуць, «каб душа ўбачыла і ад шчасця заняяла». Тут такога няма — праца досыць грубая».



**Самы славуты ідал**

знойдзены ў Беларусі да гэтага часу — шклоўскі. Гэта чалавечая фігура каля 120 см, вагой 250 кг з вапняку датуецца X ст. і захоўваецца ў Гістарычным музеі ў Мінску. Другі вядомы ідал — Слонімскі. Яго памер — 46×22×15 см. Высечаны з пясчанага вапняку ў выглядзе мужчынскага торса без рук, твар даволі плоскі з завостранай бародкай і шырокім носам з гарбінкай. Ніз скульптуры клінападобны, відаць, яе ўстаўлялі ў спецыяльны пастамент. Захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі. Славуты таксама драўляны Асавецкі ідал, які адносіцца да эпохі неаліту ці ранняга бронзавага веку, знойдзены на стаянцы Асавец-2 у Бешанковіцкім раёне.

Але няўжо дубовы камель не аброс бы да непазнавальнасці водарасцямі за тысячу гадоў падводнага існавання? «Гэта ўжо залежыць ад ракі, яна ж не статычная: плынь, хуткасць плыні, пясок намываецца ці адмываецца, — кажа Чарняўскі. — Калі ідал сапраўдны, то знаходка будзе насамрэч унікальная. Хрысціяне як маглі вынішчалі ўсе сляды папярэдняй рэлігіі: шмат было патоплена такіх ідалаў».

Няўжо дубовы камель не аброс бы водарасцямі за тысячу гадоў?

Спадар Чарняўскі звяртае ўвагу на тое, што хрысціянізацыя не адбылася раптоўна і беспаваротна тысячу гадоў таму: «Не будзем забываць, што апошняе капішча было ў Мінску на пачатку XX стагоддзя, побач з сённяшнім стадыёнам «Дынама». Ідал можа быць і V, і X, і XV, і нават XIX стагоддзяў. Хаця дрэва выглядае старым. Падчас экспертызы ад дрэва адпілуюць кавалак і па дэндрахраналагічнай шкале будзе вылічаны ўзрост. Пакуль пра стагоддзе, калі ідал быў зроблены, ніхто дакладна не скажа».

На аналіз спатрэбіцца каля месяца. Але так хочацца спадзявацца, што з дна Дрысы здабытая сусветная сенсацыя. Калі эксперты пацвердзяць старажытнасць, застанецца толькі шкадаваць, што ідал не можа гаварыць і не распавядзе нам пра свае далёкія часы.

**Юрась Ускоў**

# Палітычны дэтэктыў

Васька Пупкевіч з вёскі Ячава, якую ад Слуцка аддзяляе рэчка, у свае 16 год меў у прыстава 1-га стану Слуцкага павета Місевіча рэпутацыю дробнага злодзея. І вось, 31 ліпеня 1907 года гэты Васька прыйшоў да прыстава і ўчыніў данос на свайго суседа, 17-гадовага вучня Маладзечанскай настаўніцкай се-мінарыі Дзяніса Крывадубскага. Піша **Анатоль Сідарэвіч.**



**Трупа Ігната Буйніцкага, у якой актыўны ўдзел бралі Дзяніс Крывадубскі і Мікола Шыла.**

## Данос

Што кіравала Васькам? Любоў да цара і вернападданніцкія пачуцці? Разлік на тое, што паліцыя будзе з ім мяккая, калі да ягоных рук зноў штонебудзь прыліпне? Ці звычайная мужыцкая зайздрасць да паспяховага суседа?

Місевіч мо і прапусціў бы міма вушэй апавяданне пра тое, як ён, Васька, завітаў да суседа, а той якраз быў у садзе, вучыў двух ячаўскіх хлапчукоў. Можна ўявіць сабе садовы столік і хлопчыкаў, якія пад наглядам юнага настаўніка рашаюць арыфметычную задачу. Але вось прыйшоў Васька, і яшчэ мала вучаны жыцём і надта даверлівы Дзяніс даў яму дзве кніжкі: адну на расійскай мове, а другую, як думаў Васька, — на польскай. Акрамя таго, Дзяніс казаў, што мужыкі дурныя: ідуць служыць у войска, а цар ім за гэта нічога не дае. Казаў Дзяніс і супраць паноў. Мала таго, кніжачку

> Палітычных не ставілі на расцяжку, не катавалі ўсяночным святлом, а жандары звярталіся да іх «господа политические».

«Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» ён уручыў і сваім вучням: «Наце, чытайце і яшчэ каму дайце пачытаць». А далей Васька паведаміў прыставу і зусім цікавыя рэчы: гэтакіх кніжак у семінарыста шмат, ён хавае іх на гумне, у святліцы за люстэркам (у Крывадубскіх ёсць люстэрка — значыць, нябедныя мужыкі) і нават у сенях. Гэтыя кніжкі Дзяніс раздаваў мужыкам і бабам, якія праз Ячава ехалі ў Слуцк ці са Слуцка. Да Крывадубскіх з Лесуноў прыходзіў 19-гадовы семінарыст Лукаш Калядка, і яны разам з Дзянісам спявалі «дэмакратычныя» песні. А аднаго разу Лукаш прынёс Дзянісу больш за сотню кніжак — таксама раздаваць мужыкам, і гэтыя кніжкі, як сказаў Крывадубскі, былі «дэмакратычныя».

Прыстаў Ваську не паверыў, бо дагэтуль ніхто з ячаўцаў і з тых праезных мужыкоў і баб, якія атрымлівалі ад Дзяніса Крывадубскага кніжачкі, нават не паткнуўся ў паліцыю з даносам. А дзе вы бачылі, каб злодзей не быў хлуслівым? Таму прыстаў сказаў Ваську Пупкевічу, каб той прынёс яму на доказ хоць адну кніжку. Назаўтра, 1 жніўня, Васька прынёс дзве кніжкі: брашуру пад загалоўкам «Свобода совести» і брашуру «Казка аб вадзе» амерыканскага пісьменніка Эдварда Бэламі. Праўдзівасць слоў ячаўскага зладзюжкі пацвердзілася.

Тут адзначым, што першая з названых кніжак была куплена Лукашом Калядкам у адной з мінскіх кнігарняў, а другая прайшла цэнзуру аж двойчы: калі яе публікавалі ў «Нашай Ніве» ў траўні 1907 г. і калі яе друкавалі асобным выданнем. Але для прыстава гэта не мела значэння. Значэнне меў змест кніжак і тое, што адна з кніжак —беларуская.

##Ператрусы

Атрымаўшы з рук Ваські Пупкевіча дзве брашуры, прыстаў Місевіч пайшоў да начальства і неўзабаве меў дазвол наператрус у Крывадубскіх. 2 жніўня ён быў у Ячаве.

У выніку праведзенай акцыі былі выяўлены: брашуры «на белорусском наречии» «Чы будзе для ўсіх зямлі», «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» і «Казка аб вадзе», ужо знаёмая нам брашура «Свобода совести», кніга швейцарскага гісторыка Альфонса Туна «История революционного движения в России», №11 часопіса «Темы жизни» і на завяршэнне запісная кніжка з рэвалюцыйнымі песнямі ў ёй.

Адзначым, што непадцэнзурныя брашуры «Чы будзе для ўсіх зямлі» і «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» былі выдадзены кірыліцаю выдавецтвам «Грамада» ў Пецярбургу, а ўжо знаёмая нам «Казка аб вадзе» выйшла ў выдавецтве «Нашай Нівы» лацінкаю. Місевіч быў чалавек, мабыць, надта адукаваны, а таму палічыў: раз кніжка надрукавана «польскімі» літарамі, то і яе загаловак трэба перакласці з польскай. І вось, у прадстаўленні пракурора Мінскага акруговага суда пракурору Віленскай судовай палаты загаловак гэтай брашуры перакладзены як «Сказка о пороке».

Зацемім і такую дэталь. Брашуру «Чы будзе для ўсіх зямлі» дагэтуль не ўдалося знайсці ў кнігасховішчах Беларусі, Літвы, Расіі і Украіны. Нават Сцяпан Александровіч не натрапіў на яе. А што тычыцца кнігі Альфонса Туна, дык яе Лукаш Калядка таксама купіў у кнігарні. Яе, як і брашуру «Свобода совести» ды нумар часопіса «Темы жизни», ён прынёс Дзянісу пачытаць.

Скажам колькі слоў і пра тагачасную паліцыю. Гэта цяпер у Слуцку «праваахоўнікаў» ды іхніх цывільных памочнікаў хоць гаць гаці, а сто гадоў таму з кадрамі паліцыі была нявыкрутка. Таму яна не магла арганізаваць аднinfoачасовы налёт на ўсіх «членов преступного сообщества». Учыніўшы ператрус у Крывадубскіх, Місевіч трапіў у Лесуны да Лукаша Калядкі толькі назаўтра, 3 жніўня.

А ад Ячава да Лесуноў недалёчка. Даведаўшыся, што трэслі Дзяніса, Лукаш Калядка, не надта мудруючы, пакунак з кніжкамі ўкінуў у лопух за суседавым агародам. І калі Місевіч скончыў у Калядкаў ператрус, яму давялося занатаваць у пратаколе, што «ничего предосудительного найдено не было». Лукаш пацвердзіў, што брашуру «Свобода совести», кнігу «История революционного движения в России» і, апроч таго, «Экономические очерки» вядомага нарадавольца Аляксея Баха даў пачытаць Крывадубскаму ён. Семінарыст заявіў, што не лічыць кнігі, набытыя ў кнігарні, нелегальнымі.

Дагэтуль у нарысе згадваліся імёны двух семінарыстаў: Дзяніса Крывадубскага і Лукаша Калядкі. Як на вока паліцыі трапіў 20-гадовы Міхал Вайцяховіч з Бязверхавічаў — пакуль што загадка. У гэтага вучня Маладзечанскай семінарыі ператрус быў учынены 4 жніўня. Мусіць, ні ў Ячаве, ні ў Лесунах Міхала Вайцяховіча не ведалі, а таму і не паведамілі яму пра арышт аднакашнікаў. Заспеўшы Вайцяховіча знянацку, прыстаў знайшоў у яго ўжо вядомыя нам брашуры «Чы будзе для ўсіх зямлі», «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» і «Казка аб вадзе» («Сказка о пороке» ў паліцэйскім перакладзе), а таксама брашуры «Забастоўка», выдадзеную піцерскай «Грамадою», і «Зямельная справа ў Новай Зеландыі», выдадзеную «Нашай Нівою» (першая з іх непадцэнзурная, а другая, як і «Казка аб вадзе», прайшла цэнзуру двойчы). Апроч гэтых, былі ў Міхала Вайцяховіча іншыя выданні, і ўсе эсэраўскія. Як і ягоныя аднакашнікі, Вайцяховіч, мабыць, любіў спяваць. Таму ў яго знайшлі сшытак з рэвалюцыйнымі песнямі.

Такім чынам, двух з маладзечанскіх семінарыстаў заспелі на ўчынку: яны захоўвалі нелегальныя выданні. Аднак разам з Дзянісам Крывадубскім і Міхалам Вайцяховічам арыштавалі і Лукаша Калядку (ці мала што?). Праўда, Лукаш прабыў за кратамі нядоўга: ягоныя браты Максім і Сцяпан зрабілі 200-рублёвы заклад за вызваленне брата з-пад варты. Вызвалілі з-пад варты і Міхала Вайцяховіча: ягоны бацька таксама знайшоў 200 рублёў на заклад.

## Следства

Як і належыць, у Дзяніса Крывадубскага адразу ж спыталі: адкуль кніжкі? І семінарыст даў праўдападобны адказ: з Вільні ў Маладзечна не адзін раз прыязджалі невядомыя агітатары і прывозілі семінарыстам нелегальную літаратуру, а семінарысты распаўсюджвалі яе сярод сялян. Асабліва вялікі



**Беларускі актывіст Лукаш Калядка ў 1921-м стане ад'ютантам Фрунзе, а ў Другую сусветную — генерал-маёрам. Памёр у 1966 годзе.**

завоз быў перад вакацыямі. Ён, Крывадубскі, ведама ж, не спачуваў распаўсюду такой літаратуры, але мусіў узяць кніжкі, бо семінарысты з яго смяяліся б, назвалі б баязліўцам. Крывадубскі прызнаўся, што даваў кніжкі сваім ячаўскім вучням. І дарма прызнаўся, бо дапытаныя Місевічам чатыры ячаўскія хлапчукі «заявили, что книг преступного содержания от Криводубского не получали». Акрамя таго, ячаўскі староста Бадыль, хоць і казаў, што Дзяніс даваў кніжкі хлапчукам, «удостоверить это обстоятельство официально отказался».

А вось Міхал Вайцяховіч не здагадаўся спісаць усё на невядомых дзядзькоў з Вільні. Прыстаў высветліў, што літаратуру ён атрымаў ад двух семінарыстаў: 17-гадовага Леаніда Шашуры і 19-гадовага Мікалая Шылы. Праўда, Міхал сказаў, што сам ён атрыманую літаратуру яшчэ не паспеў прачытаць і нікому з сялян не даваў.

Пачуўшы новыя прозвішчы, прыстаў Місевіч, мабыць, дапытаў Дзяніса Крывадубскага яшчэ раз. І пачуў, што той таксама атрымаў літаратуру ад Леаніда Шашуры.

Такім чынам, у наяўнасці было «преступное сообщество», якое зай-малася распаўсюдам нелегальнай літаратуры. Рапарт пра гэта пайшоў пракурору Мінскага аруговага суда. Па-

# 1907 года

колькі «преступное сообщество» мела палітычнае адценне, у справу павінна была ўключыцца жандармерыя. 3 верасня пракурор акруговага суда паведаміў начальніку Менскага губернскага жандарскага ўпраўлення аб неабходнасці правесці перагрусы ў Шашуры і Шылы.

## Новыя вобыскі і затрыманні

Семінарыст Мікола Шыла быў, як я думаю, карэспандэнтам «Нашай Нівы» ў Маладзечанскай семінарыі, бо хто яшчэ мог так падрабязна інфармаваць чытачоў газеты аб падзеях у гэтай установе цягам 1906–1907 гг.? Сацыяліст-рэвалюцыянер паводле перакананняў, ён, як мы ведаем, быў цесна звязаны з нашаніўскім асяродкам. Дзіўна, як ён, чытач і аўтар «Нашай Нівы», не ўбачыў у нумары за 31 жніўня вось такое трохі памылковае паведамленне:

«**Слуцкі пав. Мінскай губ.** Паліцыя арыштавала чатырох вучняў Маладэчненскай вучы-цельскай семінарыі — за што, няведама. Кажуць, што ў аднаго знайшлі колькі кніжок, каторых паліцыя не вельмі любіць, а трох забралі проста «па падазрэнню». Што зробяць з хлапцамі, трудна згадаць; покуль што трымаюць іх у турме».

Акрамя таго, пра арышт таварышаў не магла не пайсці пагалоска ў самой семінарыі.

Як бы там ні было, а 6 верасня 1907 г. у семінарскім інтэрнаце падпалкоўнік Асобнага корпуса жандараў Бялінскі знайшоў сярод рэчаў вучня Міколы Шылы 18 асобнікаў «Нашай Нівы» (нумары 23–25), 3 асобнікі газеты «Народ и Дума» (№ 3 за 1907 г.), 2 асобнікі газеты «Партийные известия» (орган Цэнтральнага камітэта эсэраў), 1 асобнік газеты «Известия Северо-Западного областного комитета партии социалистов-революционеров», эсэраўскую пракламацыю «К молодой интеллигенции», брашуры «Следует ли переселяться» і «О чиновниках и народном правлении», пракламацыю «Ко всем» (з пячаткай смаргонскіх эсэраў), а таксама 4 запісныя кніжкі. Улоў быў шчодры.

Пра Леаніда Шашуру вядома тое, што ён быў агентам-распаўсюднікам «Нашай Нівы» пад нумарам 84. У семінарскім інтэрнаце ў яго нічога не знайшлі, таму перагрус быў учынены ў яго дома — у мястэчку Крайск Вілейскага павета. У Крайску ў Шашуры выявілі ўжо вядомыя нам нашаніўскія брашуры «на белорусском наречии», а таксама штотыднёвы агульнадаступны сацыялістычны часопіс «Свобода» (№ 1 за 1905 год). Меліся ў Шашуры і аддрукаваныя на гектографе запрашэнні рэдакцыі «Нашай Нівы» стаць агентам па продажы газеты.

Іх абодвух — Міколу Шылу і Леаніда Шашуру — даставілі ў Менск.



Паліцэйскі налёт на рэдакцыю «Нашай Нівы».

## Допыты

Леанід Шашура добрасумленна прызнаўся, што ўсё знойдзенае ў яго сапраўды належыць яму. Брашуры «Зямельная справа ў Новай Зеландыі» і «Казка аб вадзе» ён як агент па продажы атрымаў ад рэдакцыі «Нашай Нівы». Ні Дзянісу Крывадубскаму, ні Міхалу Вайцяховічу забароненых выданняў ён не перадаваў.

Мікалай Шыла таксама не прызнаў сваёй віны, але мусіў патлумачыць, адкуль у яго брашуры і пракламацыі. Не «абстраляны» на допытах, ён сказаў, што знойдзеныя ў яго публікацыі часткова атрыманыя ім у розны час ад невядомых асоб, а часткова... знойдзеныя. (Памятаеце? Дзяніс Крывадубскі ўсё спісаў на невядомых агітатараў з Вільні.). Што тычыцца адраса Міхала Вайцяховіча ў запісной кніжцы, дык ён, Шыла, запісаў яго, бо збіраўся напісаць Вайцяховічу ліст. Вайцяховічу і іншым вучням ён перад вакацыямі прадаў некалькі брашур, бо яму патрэбныя былі грошы на дарогу дадому. Сярод прададзеных Вайцяховічу былі брашуры «Зямельная справа ў Новай Зеландыі» і «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», але колькі асобнікаў прадаў — таго не памятае. Гэтыя брашуры яму былі дасланыя з Вільні, але хто даслаў — таго не ведае.

## Прысуд

Паліцэйска-следчая машына ў царскай Расіі была ліберальная. Палітычных не ставілі на расцяжку, не прымушалі іх рабіць «ластаўку», не катавалі ўсяночным святлом, а жандары звярталіся да іх «господа политические». Дый, мусіць, не было ў следчых асаблівай ахвоты выцягваць з маладых людзей нейкія дадатковыя звесткі.

Судовая машына была непаваротлівая. Судзілі маладзечанскіх семінарыстаў аж 29 красавіка 1909 г. — праз год і дзевяць месяцаў пасля даносу ячаўскага злодзея Ваські Пупкевіча. Само сабой, Лукаша Калядку апраўдалі: не знайшлі ў яго крамолы. Апраўдалі і Леаніда Шашуру: займаўся легальнай камерцыяй, распаўсюджваў выданні легальнай «Нашай Нівы»; за адну нелегальную пракламацыю вырашылі не караць.

Цяжэй было даказаць невінаватасць тром астатнім спраўцам: Міхалу Вайцяховічу, Дзянісу Крывадубскаму і Міколу Шылу. Усім ім «далі» па аднаму месяцу крэпасці.

## Лёсы

Дзяніс Крывадубскі быў звязаны з нашаніўскім асяродкам. Захаваўся адзін ягоны ліст да рэдактара «НН» Аляксандра Уласава (1912). Яшчэ трэба даследаваць, ці не быў Крывадубскі аўтарам газеты. А што ён быў актарам Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, дык тое вядома гісторыкам беларускага тэатра. Вядома таксама, што ў 1925 — 1932 гг. Дзяніс Крывадубскі (Крывадуб) служыў бухгалтарам у Белдрамтаварыстве, правапераемнікам якога стане Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Усесаюзнага ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў. Памёр Крывадубскі ў 1958 г. Апошнія гады ён жыў у доме непадалёк ад Тэатра оперы і балета.

Сляды Міхала Вайцяховіча і Леаніда Шашуры губляюцца. Затое даволі добра вядомы лёс Лукаша Калядкі, які стане ад'ютантам савецкага военачальніка Міхаіла Фрунзэ, генерал-маёрам Савецкай Арміі і мемуарыстам (на сёння вядомыя ягоныя ўспаміны пра Міхаіла Фрунзе і пра забастоўку 1906 г. у Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі). Калядка у 1908–1910 гг. жыў і працаваў у Вільні. Мажліва, ён таксама быў звязаны з нашаніўцамі.

А што да нашаніўскага асяродка належаў Мікола Шыла, тое агульнавядома. Выйшаўшы з няволі, ён прыедзе ў Вільню. Пра нашаніўскі асяродак і Янку Купалу ён пакіне нам успаміны. Разам з Алесем Бурбісам, Цёткай ды іншымі сацыялістамі ён бу-дзе актарам у Ігната Буйніцкага, а разам з сябрам Беларускай цэнтральнай беларускай вайсковай рады Лукашом Калядкам — дэлегатам Усебеларускага з'езда ў снежні 1917-га.

**P. S.** Шчырую падзяку за дапамогу ў напісанні гэтага нарыса выказваю гісторыку Віталю Скалабану.

# Самазванка з інтэрнэту пад выглядам Цёткі





Да 135-годдзя з дня нараджэння паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч), што адзначалася 15 ліпеня, многія выданні змясцілі юбілейныя публікацыі, аздобіўшы здымкам маладой жанчыны ў светлай сукенцы. У рэдакцыю «НН» звярнулася пісьменніца Лідзія Арабей, даследчыца жыцця і творчасці Цёткі. Паводле яе словаў, на здымку — «невядомая асоба».

Ні ў адной біяграфічнай крыніцы гэтага фота няма. Магчыма, мяркуе спн.Арабей, такі казус стаў магчымым дзякуючы інтэрнэту. Сапраўды, фота «самазванкі» з'яўляецца, калі шукаеш здымкі праз пошукавую сістэму google.com. Найдаўнейшы яе след, датаваны 2007 годам, выяўлены ў Жывым Часопісе: гомельскі блогер balachon апублікаваў фота, дасланае сяброўкай, якая сцвярджала, што на здымку — Цётка. Сам ён паставіўся да гэтага скептычна. Аднак такой публікацыі было дастаткова, каб вобраз пачаў тыражавацца ў інтэрнэце.

Падабенства ёсць, але ўсё ж на фота — іншая жанчына.

**Сяргей Мікулевіч**

# Археолагі знайшлі ў Полацку рэшткі школы, дзе вучыўся Скарына

Археолагі, якія ажыццяўлялі ў Полацку нагляд за ходам будаўнічых прац у Запалоцці, выявілі падмуркі корпуса кляштара бернардынаў. Лічыцца, што менавіта ў Франак Скарына здабыў пачатковую адукацыю.

Школа манахаў-бернардынаў працавала пры кляштары, існаванне якога вядома ўжо пад 1498 годам. Да апошняга часу дакладнае месца размяшчэння бернардынскага кляштара ў Запалоцці было невядомае: час не захаваў нават руінаў. Гісторыкі толькі прыблізна меркавалі, дзе ён мог знаходзіцца, і мелі планы гэтага кляштара.

Кляштар і касцёл бернардынаў у Запалоцці згарэлі падчас Інфлянцкай вайны ў 1563 годзе. У XVIII стагоддзі бернардыны пабудавалі ў Полацку новы кляштар і касцёл, але гэтым разам у Задзвінні, рэшткі гэтых збудаванняў захаваліся да нашых дзён.

Рэшткі падмурка супалі з наяўным планам бернардынскага кляштара.

Навукоўцы знайшлі і царкоўнае начынне, якое належала манахам-бернардынам, посуд, кафлю, накладкі на кнігі.

Музеефікаваць знойдзеныя рэшткі кляштара, на жаль, не ўяўляецца магчымым, бо ў гэтым раёне шчыльная прыватная забудова. Тым не менш, турыстычная карта старажытнага Полацка можа папоўніцца яшчэ адной гістарычнай мясцінай.

**БелТА**




## СПОРТ

**Хакей: «Брэст» супраць «Ліды»**

**20 жніўня ў мінскім Палацы спорту** — хакейны матч Кубка Беларусі. Скрыжуюць клюшкі ХК «Брэст» і ХК «Ліда». **Пачатак а 17-й.**

## ІМПРЭЗЫ

**Прэзентацыя кнігі Някляева**

**18 жніўня ў Кіеве, на VII Кіеўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы (вул. Хрaшчацік, 2),** выдавецтва «Ярославів Вал» прэзентуе паэтычную кнігу Уладзіміра Някляева. **Пачатак а 14-й.**

## КАНЦЭРТЫ

**Вольнае паветра — 2011**

**27 жніўня ў Беларусі** выступяць паўтара дзясятка этна-артыстаў з розных краін. Фестываль «Вольнае паветра — 2011» пройдзе пад адкрытым небам на хутары Шаблі ля вёскі Малое Запруддзе (Валожынскі раён, 80 км ад Мінска ў бок Вільні, арыенцір — вёска Гародзькі).

Фестываль некалькі разоў адкладаўся цягам лета. Акрамя беларускіх выканаўцаў сучаснага фольку (Dzivasil, Akana, «Нагуаль»), выступяць музыкі з Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы і Сербіі.

**Музыкі будуць граць ад 15.00 да 6.00 раніцы**. Квіткі каштуюць 20 тысяч рублёў (уваход) ці 50 тысяч (уваход + кемпінг). Даведкі па т.: (029) 655-55-96, (033) 655-55-96.







PHOTO.BYMEDIA.NET

# Вітаю, школа!

Спецыялізаваная выстава «Вітаю, школа» пройдзе ад 23 да 31 жніўня ў павільёне «Белэкспа» (вул. Я.Купалы, 27). У выставе бяруць удзел беларускія прадпрыемствы-вытворцы.

**Зміцер Вайцюшкевіч**

**21 жніўня ў «Графіці»** зайграе Зміцер Вайцюшкевіч. **Пачатак а 18-й.**

**Apple Tea**

**24 жніўня ў «Графіці»** — канцэрт ветэранаў беларускага джазу Apple Tea. **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

**Музычныя інструменты**

**21 жніўня а 14-й у Заслаўі ў Музеі-запаведніку** — адкрыццё выставы калекцыі музычных інструментаў Івана Кірчука і этнатрыа «Тройца». Уваход вольны.

**Кірмаш HandMade**

**21 жніўня з 12-й да 18-й у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь** пройдзе кірмаш HandMade, на якім будуць прадстаўлены творы беларускіх майстроў-рамеснікаў. Вы ўбачыце аўтарскія лялькі, вышыўку, піраграфію…

**Рысы паэзіі**

**У Музеі Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а)** працуе выстава графікі «Рысы паэзіі», дзе можна ўбачыць ілюстрацыі А.Пашкевіча, А.Лапіцкай, Г.Грака да твораў Максіма Багдановіча). Выстава працуе да 25 верасня. **Адкрыццё пройдзе 17 жніўня а 17-й.**

**Арт-горад**

**Ад 18 жніўня да 18 верасня ў канферэнц-зале Гётэ-Інстытута (вул. Харужай, 25)** працуе выстава работ удзельнікаў конкурсу на найлепшую ідэю аб'екта ў адкрытай прасторы Мінска «Арт-горад». Конкурс праектаў мастацтва ў гарадскім асяроддзі — адзін з этапаў праекта Інстытута Гётэ ў краінах Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі, прысвечанага мастацтву ў публічнай прасторы. Мяркуецца, што праект-пераможца будзе прапанаваны Мінгарвыканкаму для рэалізацыі ў 2012 годзе.

**Міхал Савіцкі. «Хлеб жыцця»**

**У Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 10)** можна пабачыць выставу «Хлеб жыцця» Народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага. На выставе — больш за 20 палотнаў мастака, створаных ім у апошнія 25 гадоў жыцця. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак: у першай дэманструюцца працы працоўнай тэматыкі, у другой — творы біблейскага цыкла. **Выстава працуе да 5 верасня.**

**«Італія, бацькаўшчына натхнення…»**

**Да 4 верасня ў Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава расійскага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю ўвайшлі творы Мацвеева, Айвазоўскага, Рэймерса, Броннікава, Ге.

**Лялькі і іх жыццё**

**Да 15 верасня ў «Гасцёўні Уладзіслава Галубка» (вул. Старавіленская, 14)** працуе праект «Лялькі». Сёлета гэта не толькі выстава, але і лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак.

**Выстава жывапісу Шчамялёва**

**Да 20 жніўня ў гарадской мастацкай галерэі Л.Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49)** працуе выстава твораў Леаніда Шчамялёва. У калекцыі прадстаўленыя працы майстра розных гадоў. Прысутнічаюць усе ўласцівыя ягонай творчасці жанры: гістарычная карціна, пейзаж, партрэт, нацюрморт…

**З калекцыі выдавецтва «Віта Нова»**

**У Мастацкім музеі да 3 кастрычніка** працуе выстава выдавецтва «Віта Нова» (Расія), якое спецыялізуецца на калекцыйных ілюстраваных выданнях мастацкай, дзіцячай літаратуры, а таксама паэзіі, біяграфічных і літаратуразнаўчых кніг.

**Царства Аіды**

**Да 20 верасня ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав. Музычны, 5)** працуе выстава «Царства Аіды», на якой прадстаўленыя фотаздымкі акцёраў, занятых у ролях у розныя гады, а таксама фотаздымкі сцэнаў са спектакляў, пачынаючы з 1953 года. Таксама можна ўбачыць эскізы касцюмаў Сяргея Нікалаева з фондаў музея.

**Парад лялек**

**Да 2 кастрычніка ў Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава касцюмаванай парцалянавай лялькі ручной работы «Парад лялек». У экспазіцыі — каля 100 лялек, апранутых у гістарычныя, казачныя і нацыянальныя касцюмы XVIII — XIX стагоддзяў. Зацікавяць вас таксама і лялькі-куфэрачкі і цукерніцы.

## КІНО

### Каўбоі супраць прышэльцаў

**Cowboys & Aliens**

ЗША, 2011, каляровы, 118 хв.

**Рэжысёр:** Джон Фаўро

**Ролі выконваюць:** Дэніэл Крэйг, Гарысан Форд, Алівія Уальд, Эбігэйл Спэнсэр, Сэм Рокуэл

**Жанр:** Вестэрн і фантастыка

**Адзнака:** 4 (з 10)

Галоўны герой прачнуўся ў пустыні на Дзікім Захадзе. Ён не памятае, хто ён, але на ягонай руцэ жалезны бранзалет і на яго палююць каўбоі. Калі вязня адпраўляюць у турму, на мястэчка нападаюць чужынскія істоты на паветраных караблях. Але бранзалет героя — галоўная зброя супраць іх. Барацьба каўбояў з прышэльцамі пачынаецца.

Доўгі час падобныя фільмы былі на перыферыі кінаіндустрыі. Галоўныя галівудскія кінастудыі такім балаганам грэбавалі, затое маргінальныя творцы на радасць гледачам адцягваліся напоўніцу.

Цяпер прыйшлі іншыя часы. У фільм запрошаны ганаровыя акцёры — Дэніэл Крэйг (са звычкамі Джэймса Бонда) і Гарысан Форд, які не забыў кароннную ролю археолага Індыяны Джонса. Але абодва акторы занадта пафасныя для такога кіно. Спецэфекты дый пачвары — стандартна-карэктныя для сённяшняга Галівуда. Фільму бракуе неахайнасці, хуліганства і сапраўднай свабоды.

Але асобныя намёкі на гэта ў стужцы маюцца. Усмешка бандыта, лапы прышэльца, што вылазяць з ягонага жывата, мудры святар, здольны і рану зашыць, і монстра прышыць. І самая важная цікавостка — галоўная прыгажуня карціны, чыё неверагоднае паходжанне моцна здзівіць герояў і публіку. Шкада, што здзіўлення хапае толькі на палову карціны.

**Андрэй Расінскі**



# Ніякага алкаголю за рулём

**Ад 12 жніўня кіроўцаў караюць за 0,3 праміле алкаголю ў крыві.**

«Летась было затрымана 50 тысяч п'яных кіроўцаў», — заявіў міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў. Сёлета іх можа налічыцца яшчэ больш. У першым паўгоддзі ўжо злавілі 32 тысячы, а цяпер да п'яных аднясуць і тых, хто «дыхне» на 0,3 праміле. Гэта пераважна ўчарашнія «адзначальнікі» з рэшткамі алкаголю ў крыві. Выпіў з вечара — едзь на працу на грамадскім транспарце.

### Заслужаная жорсткасць

«Праміле» — гэта навуковы тэрмін, які абазначае долю абсалютнага этылавага спірту ў крыві. Напрыклад, бутэлька гарэлкі дае 3,5 праміле. І кожную гадзіну з арганізма выветрываецца ўсяго 0,1—0,15 праміле. Значыць, пасля бутэлькі гарэлкі давядзецца адпачываць ад стырна як мінімум суткі.

Новы максімум (для мужчыны вагой 80 кілаграмаў)

40 грам гарэлкі

ці 300 грам піва (5%)



Праверкі стануць больш строгімі.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Норма «0,3 праміле» — гэта больш жорстка, чым у большасці еўрапейскіх краінаў — напрыклад, Германіі, Францыі і Італіі. Яны спыніліся на мяжы 0,5 праміле, якая раней была і ў нашай краіне. Затое ў палякаў норма — 0,2, а ў расіянаў і чэхаў увогуле дазволена толькі 0 праміле.

### Квасу — хоць заліся!

Чуткі, што паказанні алкатэстараў зашкальвалі пасля ўжывання кефіру, квасу ці цукерак з лікёрам, не пацвярджаюцца. Гэта вынік шматлікіх эксперыментаў, якія праводзіліся аддзяленнем экспертызы ап'янення Мінскага абласнога клінічнага цэнтра «Псіхіятрыя і наркалогія».

Каб перайсці законную мяжу, перапіўшы кефіру, яго трэба выдзьмуць як мінімум некалькі літраў. Тое самае і з валяр'янкай. Выпіўшы шклянку, за стырно сапраўды сядаць няварта. Але не толькі праз долю алкаголю ў крыві — трэба будзе пастарацца, каб не заснуць на дарозе.

А вось з безалкагольным півам эксперыментаваць не варта. Мінімальны градус у ім ёсць, таму ў першыя хвіліны колькасць алкаголю ў крыві можа падскочыць.

### Павышаная адказнасць

Закон ставіцца да п'яных парушальнікаў надзвычай строга. Кіраванне у нецвярозым стане альбо передача стырна п'янаму прадугледжвае штраф ад 525 000 да 1 575 000 рублёў. Таксама кіроўца можа быць пазбаўлены правоў на тэрмін да трох гадоў. Калі ж зловяць яшчэ раз — зноў п'яным і ўжо без правоў, — штраф можа ўзрасці да 1000 базавых (35 млн рублёў) і выпраўленчых працаў тэрмінам да двух гадоў.

**Ягор Марціновіч**

АЎТО

## Новая паслуга ДАІ — замена нумароў

**Абнаўленне аднаго нумарнога знака каштуе 50 тысяч рублёў.**

Паліграфічны цэнтр МУС цяпер можа замяніць пагнуты ці выцвілы нумарны знак. Для фізічных асобаў абнаўленне аднаго знака будзе каштаваць 50 тысяч рублёў, а абодвух — 70 тысяч. Юрыдычныя асобы заплацяць утрая больш — 150 і 200 тысяч рублёў адпаведна.

Прайсці працэдуру можна за дзесяць хвілін: аддаць старыя нумары, прад'явіць тэхпашпарт і пасведчанне асобы.

Дарэчы, за тую ж цану можна памяняць нумарны знак «еўрапейскага» тыпу на «амерыканскі» і наадварот.

Адзіны такі цэнтр у краіне працуе ў Мінску, па адрасе Грушаўская, 7.

**ЯМ**

## Кошт навучальных нетбукаў складзе $330

**Але забіраць іх дахаты дзецям не дазволяць.**

Праект пераводу беларускіх школьнікаў з папяровых падручнікаў на электронныя прылады зноў зменены. Ранейшы план прадугледжваў выдачу планшэтаў — экранаў з сэнсарным кіраваннем. Націснуў на экран — адкрыў падручнік. Як альтэрнатыўны, больш ашчадны варыянт называлася закупка электронных кінг — прыладаў, на якіх можна прагортваць тэкст. У выніку ж для беларускіх школьнікаў будуць закупленыя нетбукі — ноўтбукі з меншым экранам.

Паводле заявы намесніка дырэктара Парку высокіх тэхналогій Аляксандра Марцінкевіча, кошт адной такой прылады складзе $330. Выдаткі на набыццё першай сотні нетбукаў падзеляць між сабой рэзідэнты Парку высокіх тэхналогій і ААТ МПОВТ. У камп'ютары будуць працэсар Intel Atom, 1 ГБ аператыўнай памяці і вінчэстар аб'ёмам 320 ГБ. На ім будуць устаноўленыя 15 навучальных праграм і лічбавых падручнікаў.

Калі вучань зламае нетбук, кампенсацыя ляжа на спонсараў праграмы. Але на ўсялякі выпадак камп'ютар выраблены ў супрацьударным і воданепранікальным корпусе. Паводле рашэння арганізатараў праграмы, нетбук будзе захоўвацца ў школе і яго не будуць перадаваць для хатняга выкарыстання.

**ЯМ**

ШКОЛА

## Дзіцячыя заплечнікі, сумкі і абутак — у льготны крэдыт

**Стаўка гадавых нават меншая за інфляцыю.**

У Беларусі будуць выдзяляць льготныя спажывецкія крэдыты на тавары для дзяцей, пастанавіў Саўмін. Льготныя крэдыты можна атрымаць на вопратку, абутак для дзяцей; ранцы і заплечнікі вучнёўскія; сумкі маладзёжныя. Тавары мусяць быць беларускай вытворчасці.

Льготныя крэдыты выдзяляюцца банкамі ў рублях на тэрмін да трох гадоў пад 10% гадавых. Максімальная сума — 10,5 млн рублёў. Па грошы можна звяртацца ў «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Белінвестбанк», «Белпрамбудбанк».

**БелаПАН**

ЗДАРОЎЕ

## ЗША: наватарскі спосаб лекавання раку

Група амерыканскіх даследчыкаў паспяхова выкарыстала генную тэрапію для лячэння хранічнага лімфалейкозу — анкалагічнага захворвання, звязанага з некантраляваным размнажэннем атыповых В-лімфацытаў.

Сутнасць метаду — у генетычным «перапраграмаванні» Т-лімфацытаў пацыентаў, пасля якога клеткі набываюць здольнасць распазнаваць і знішчаць клеткі злаякаснай пухліны.

З гэтай мэтай Т-лімфацыты былі выдзеленыя з крыві хворых і размножаныя ў лабараторыі. Пасля гэтага ў геном клетак з дапамогай бясшкоднага для чалавека віруса былі ўнесеныя гены, што кадзіруюць хімернае антыцела, здольнае звязвацца з антыгенам CD19. Гэты антыген сустракаецца толькі на паверхні ракавых клетак.

Усім тром пацыентам, якія ўдзельнічалі ў эксперыменце, ужо не дапамагала хіміятэрапія. Увядзенне мадыфікаваных клетак у арганізм ажыццяўлялася ў тры этапы цягам трох дзён. Праз два-тры тыдні пасля гэтага ў хворых пачалі масава гінуць клеткі пухліны, працэс суправаджаўся павышэннем тэмпературы цела, дрыжыкамі і млоснасцю, якія доўжыліся некалькіх дзён.

Эфектыўнасць лячэння пацвярджалася зніжэннем колькасці або знікненнем клетак пухліны ў шпіку, крыві і лімфатычнай тканцы пацыентаў. Пры гэтым мадыфікаваныя Т-клеткі захоўвалі актыўнасць, працягваючы размнажвацца і знішчаць клеткі пухліны яшчэ некалькі месяцаў пасля пачатку лячэння. Двум з трох хворых удалося дасягнуць устойлівай рэмісіі, стан трэцяга хворага таксама значна палепшыўся.

**КаМ**



ТЭЛЕВІЗАР

## У 2012 годзе пачнецца адключэнне аналагавага тэлебачання

**Каб глядзець тэлеканалы, трэба будзе набываць ці браць у арэнду лічбавую прыстаўку.**

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі прапануе пачаць адключэнне аналагавага тэлебачання з 2012 года. Урад павінен вызначыцца з тэрмінамі адключэння ўжо 19 верасня.

Адключэнне плануецца пачаць з выпрабавальнага аб'екта на Гродзеншчыне ці Віцебшчыне, паведамляе БелТА.

Дзяржпраграмай укаранення лічбавага тэлевяшчання прадугледжана, што да 2015 года краіна цалкам адмовіцца ад аналагавага тэлебачання.

Па стане на 12 ліпеня ахоп насельніцтва Беларусі наземным тэлевяшчаннем складае 94,25%.

У Беларусі развіваецца лічбавае тэлевяшчанне стандарту DVB-T з ужываннем кадавання MPEG-4 AVC/H.264. Яно накіравана на забеспячэнне насельніцтва абавязковым агульнадаступным пакетам тэлевізійных праграм, якія складаюцца з васьмі тэлеканалаў і адной радыёпраграмы (так званым сацыяльным пакетам тэлевізійных праграм стандартнай выразнасці без дадатковых сэрвісаў).

Для прыёму сацыяльнага пакета тэлевізійных праграм стандартнай выразнасці неабходныя лічбавая тэлевізійная прыстаўка або тэлевізійны прымач, якія падтрымліваюць стандарт кадавання MPEG-4 AVC/H.264.

**ЯМ**

ІХ ПРАБЛЕМЫ

## Шры-Ланка правяла перапіс сланоў

На Шры-Ланцы прайшоў перапіс сланоў, якія насяляюць выспу. Перапісчыкамі былі чатыры тысячы добраахвотнікаў і вайскоўцаў, якія абследавалі ўсе нацыянальныя паркі і запаведнікі ў пошуках сланоў. Па папярэдніх адзнаках арганізатараў перапісу, на Шры-Ланцы каля чатырох тысяч сланоў. Абаронцы жывёл лічаць, што гэтыя лічбы могуць быць заніжаныя напалову. Калі будуць падведзены вынікі слановага перапісу, не ўдакладняецца.

**БелТА**




**Нагуляцца перад школай. Летнія забавы на каруселях у Мінску.**



**Бяжы, бяжы, хлопец! Бернд Штанге назірае за гульнёй падапечнага ў часе таварыскага матча зборных Беларусі і Балгарыі. Нашы перамаглі 1:0.**



**Апошняе «бывай». У Мінску, за цыркам, руйнуюць будынак першай гарадской электрастанцыі.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** Пасадзілі ў ваенную турму начальніка сыскнога аддзела Фядотава, якога засудзілі на тры тыдні пад арышт за тое, што падчас допыту збіў цяжарную кабету.

**«НН». № 33. 1911.**

**13 жніўня У.Ганчарык, С.Домаш і кіраўнікі палітычных партыяў,** што ўваходзяць у КРДС, маюць урачыста падпісаць афіцыйную ўгоду, што ўтрымлівае забавязанні адзінага кандыдата перад партыямі і двухбаковыя ўзаемныя забавязанні Домаша і Ганчарыка. У выпадку перамогі на выбарах адзін з іх стане прэзідэнтам, другі — моцным прэм'ерам. Абодва падраджаючца зрабіць усё для грамадскіх пераўтварэнняў і ўмацавання дзяржаўнасці Беларусі.

**«НН». № 33. 2001**

## Анекдоты

* * *

Калі партыяй улады будзе «Белая Русь», як будзе называцца партыя апазіцыі?

* * *

Беларусы скупляюць даляры проста таму, што ім падабаецца глядзець на розных прэзідэнтаў.

* * *

Вам, жанчынам, добра. Захацеў паесці —пайшоў і зварыў.

* * *

Калі б сабакі загаварылі, людзі б страцілі апошніх сяброў.

* * *

— А зараз перад вамі выступіць знакаміты ёг, які бясстрашна ходзіць па бітым шкле! Маэстра, раскрыйце ж нам свой сакрэт!
— Дык я ў кедах...

* * *

У кітайскім рэстаране ежу гатуюць не толькі туркмены, але і самі ўзбекі.



**Іспанская герцагіня Альба, самая тытулаваная жанчына свету, пры жыцці аддае дзецям спадчыну, каб мець магчымасць выйсці замуж за каханага чалавека. Яе абраннік Альфонса Дыяс працуе ў сферы сацзабеспячэння і маладзейшы за герцагіню на 24 гады. Ёй споўнілася 85.**

## Шаноўныя чытачы!

Наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду, **31 жніўня.**

**У аэрапорце? У машыне? У метро? Чытай pda.nn.by з мабільніка**

Трымайце руку на пульсе pda.nn.by, дзе б Вы ні былі.

НН.Бай забяспечвае аператыўныя навіны, ясныя каментары, відэа і фоты. Усім гэтым Вы можаце карыстацца з мабільнага тэлефона. Праз ПДА-версію Вы можаце сачыць за навінамі і каментарамі, ашчаджаючы трафік. Яна зручная і сціслая.

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7550.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 16.08.2011.
Замова № 3939.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12